VERTIGO



«Думка правакуе і цудоўна забаўляе».

– BBC

«Па-сур'ёзнаму смешная байка з кантэкстам».

– Entertainment Weekly

Brian K. Vaughan  Pia Guerra  José Marzán, Jr.

# АПОШНІ МУЖЧЫНА

Cycles








# АПОШНІ МУЖЧЫНА





**6 ВЫПУСК**
**7 ВЫПУСК**
**8 ВЫПУСК**
**9 ВЫПУСК**
**10 ВЫПУСК**

**ПЕРАКЛАД АРТУРА БАРАДАЧОВА,**
**АФАРМЛЕННЕ КОЗЫРАВА СЯРГЕЯ**


ШЧЫРЫ ДЗЯКУЙ
ЗА ПАДТРЫМКУ
COMICSBY.BY:

Сяргей
Лісічонак






VERTIGO
ISSUE 6
FEB 2003
2.95 can 4.95
BRIAN K. VAUGHAN
PIA GUERRA
JOSE MARZAN JR.
SUGGESTED FOR MATURE READERS

" The buzz on this book seems to grow with each subsequent issue. And my friends, it is well worth the buzz."
-ZENtertainment

NEW STORYLINE

comicsby.by
vertigocomics.com

.BY
КОМІКСЫ ПА-БЕЛАРУСКУ

Y ~ АПОШНІ МУЖЧЫНА #06
ПЕРАКЛАД: АРТУР БАРАДАЧОЎ
АФАРМЛЕННЕ: СЯРГЕЙ КОЗЫРАЎ

# Бостан. Масачусетс.
# Зараз










# CYCLES

## Кругаварот. Глава першая

BRIAN K. VAUGHAN    PIA GUERRA
WRITER/CO-CREATORS/PENCILLER
JOSE MARZAN, JR., INKER
CLEM ROBINS, LETTERER    PAMELA RAMBO, COLORIST
DIGITAL CHAMELEON, SEPARATIONS    J.G. JONES, COVER ARTIST
STEVE BUNCHE, EDITOR
Y:THE LAST MAN CREATED BY
BRIAN K. VAUGHAN AND PIA GUERRA

8752

ПАДУМАЙЦЕ ЯШЧЭ РАЗ.


ВЫ ЎВОГУЛЕ ВЕДАЕЦЕ, КОЛЬКІ САМАЛЁТАЎ УПАЛА, КАЛІ ЎСЕ МУЖЧЫНЫ ПАМЁРЛІ?
ЯКОЕ ГЭТА МАЕ ДАЧЫНЕННЕ...
У ПАВЕТРЫ ЗНАХОДЗІЛАСЯ КАЛЯ ПЯЦІ ТЫСЯЧ У МОМАНТ, КАЛІ ПАЧАЛАСЯ ЭПІДЭМІЯ. ПРЫ ТЫМ, ШТО ЖАНЧЫН-ПІЛОТАЎ АМАЛЬ ШТО НЯМА. РАБІЦЕ ВЫНІКІ...


ГЭТЫЯ СТАРАЖЫТНЫЯ ДЫЗЕЛЬНЫЯ ЦЯГНІКІ – ЦЯПЕР АДЗІНЫ СПОСАБ ПЕРАДОЛЕЦЬ ЯКУЮ-НЕБУДЗЬ РЭАЛЬНУЮ АДЛЕГЛАСЦЬ.
КАЛІ, АКРАМЯ ГЭТАГА БЕСКАРЫСНАГА ПРОЦІВАГАЗА, ВАМ БОЛЕЙ НЯМА ЧАГО ПРАПАНАВАЦЬ, ВАМ ТРЭБА БУДЗЕ СТАЦЬ У ЧАРГУ, ЯК І ЎСІМ.
ПАЧАКАЙЦЕ!


ШТО НАКОНТ МАТАЦЫКЛАЎ? Я РАЗУМЕЮ, ШТО ДАРОГІ ПЕРАПОЎНЕНЫ... МЁРТВЫМІ ХЛОПЦАМІ Ў ТАЧКАХ І ЎСЁ ТАКОЕ, АЛЕ БАЙКІ ЎСЁ Ж БОЛЬШ РУХАВЫЯ, ЧЫМ...
МОЦЫКІ СКЛАДАНЕЙ НАБЫЦЬ, ЧЫМ ПАЛЬЧЫКАВЫЯ БАТАРЭЙКІ ДЛЯ ВАШАГА ВІБРАТАРА, ДАМАЧКА. ВАМ НІВОДНАГА НЕ ЗНАЙСЦІ...


АЛЕ Ж... Я ЎЖО ЗНАЙШЛА.


РЭАЛЬНЫ МУЖЫК.


ШТО... ШТО ВЫ СКАЗАЛІ?


ШТО?
А, ПРАШУ ПРАБАЧЭННЯ. СТАРОЕ ВЫКАЗВАННЕ. ТРОХІ НЕДАРЭЧЫ Ў АПОШНІ ЧАС, ТАК?


САПРАЎДЫ.


ДЗЕ Ў ВАС АТРЫМАЛАСЯ АДКАПАЦЬ ГЭТУ ШТУКУ?
МОЙ... ХЛОПЕЦ ЕЗДЗІЎ НА ТАКІМ ЖА.
ДОЎГА ПАВЕДАМЛЯЦЬ. АЛЕ КАЛІ ПУСЦІЦЕ МЯНЕ НА БОРТ, БАЙК МОЖАЦЕ ПАКІНУЦЬ САБЕ. І Я НІКОМУ НЕ СКАЖУ.


НУ, Я... НЕ ЗМАГУ ПУСЦІЦЬ ВАС ДА ПАСАЖЫРАЎ.
ХІБА ТОЛЬКІ Ў ГРУЗАВЫ...
ДАМОВІЛІСЯ.


ДОБРА, Я ПАКІНУ ДЛЯ ВАС АДЧЫНЕНЫМІ ДЗВЕРЫ СА ЗВАРОТНАГА БОКУ ЦЯГНІКА.
АЛЕ ВАМ ЛЕПЕЙ СПЯШАЦЦА, ЁН АДПРАЎЛЯЕЦЦА МЕНШ, ЧЫМ ПРАЗ ПЯЦЬ...



ШЧЫРЫ ДЗЯКУЙ ЗА ПАДТРЫМКУ COMICSBY.BY:
Сяргей Лісічонак













*ТУТ ГУЛЬНЯ СЛОЎ. У АНГЛІЙСКАЙ МОВЕ «ЖУРБОТНЫ» БУДЗЕ «BORE», ШТО ГУЧЫЦЬ АДНОЛЬКАВА З «BOAR» – ДЗІК, КНЫР.














НАВОШТА ГЭТЫ MOSSBERG? У НАС БУДЗЕ БЕКОН НА АБЕД?
БАЮСЯ, ШТО НЕ. ЁСЦЬ ЛЮДЗІ, ЯКІМ ГЭТЫЯ ЖЫВЁЛЫ ПАТРЭБНЫ БОЛЬШ, ЧЫМ НАМ.
ГЭТА ТОЛЬКІ ЗАСЦЯРОГА. НА ВЫПАДАК, КАЛІ НАС ПРАСЛЕДУЮЦЬ ТЫЯ, ХТО СПАЛІЎ ЛАБАРАТОРЫЮ ДОКТАРА МАН.

ВЫ ЎКЛЯПВАЛІСЯ Ў НЕМПРЫЕМНАСЦІ ДА СУСТРЭЧЫ СА МНОЙ?
ТАК, ВЕДАЕЦЕ, ЯК **ЗВЫЧАЙНА** АДБЫВАЕЦЦА...ВЫКРАДАЛЬНІЦЫ, АМАЗОНКІ, РЭСПУБЛІКАНКІ. НІЧОГА ТАКОГА, З ЧЫМ БЫ НЕ СПРАВІЎСЯ ХТОСЬЦІ ЯК ВЫ.

ГЭТА ЯШЧЭ ЧАМУ? ТАМУ ШТО Я АЗІЯТКА?
ТЫ ЛІЧЫШ, ГЭТА АЎТАМАТЫЧНА ПЕРАТВАРАЕ МЯНЕ Ў НЕЙКАГА МАЙСТРА АДЗІНАБОРСТВА? АЛЕ Я НІЧОГА НЯ КЕМЛЮ НІ Ў КАРАТЭ, НІ Ў КУНГ-ФУ, НІ Ў...
ГЭЙ, НЕ ГАРАЧЫЦЕСЯ! Я ТОЛЬКІ ХАЦЕЎ СКАЗАЦЬ, ШТО ВЫ Ў ДАВОЛІ НЯДРЭННАЙ ФОРМЕ. ТОЛЬКІ ЎСЯГО.

А.
ДЗЯКУЙ.
Я РАНЕЙ ЗАЙМАЛАСЯ... ПІЛАТЭСАМ.

АЛЕ КАЛІ ВЫ ЎЖО ПАЧАЛІ, ХТО ВЫ ПА НАЦЫЯНАЛЬНАСЦІ?
ЭХХ.
**ПА НАЦЫЯНАЛЬНАСЦІ** Я АМЕРЫКАНКА. **ПА ПАХОДЖАННІ** – ЯПОНА-КІТАЯНКА.

САПРАЎДЫ? НЯ ДУМАЛА, ШТО АДНОСІНЫ ПАМІЖ ГЭТЫМІ ДВУМА ГРУПАМІ ВЫЗНАЧАЮЦЦА ЎЗАЕМНЫМ КАХАННЕМ.
МАЕ МАЦІ І БАЦЬКА БЕЗУМОЎНА НЕ ЖЫЛІ Ў ЗГОДЗЕ.
ЯНА БЫЛА ХІРУРГАМ, ЁН – ВУЧОНЫМ-ДАСЛЕДЧЫКАМ. ЯНЫ ЗАКАХАЛІСЯ НА КАНФЕРЭНЦЫІ Ў ТАЙВАНІ, ПЕРАЕХАЛІ Ў ШТАТЫ І... ПРАВЯЛІ АСТАТАК ЖЫЦЦЯ, ЛАЮЧЫ АДЗІН АДНУ.

ДЫК ВАША ПРОЗВІШЧА КІТАЙСКАЕ ЦІ ЯПОНСКАЕ?
НІ ТОЕ, НІ ІНШАЕ. Я ЗМЯНІЛА ЯГО НА ПЕРШЫМ КУРСЕ Ў БЕРКЛІ.
ЧАМУ «МАН»?

У ГОНАР КІТАЙСКАГА ТЭАТРА Ў ЛОС-АНЖЭЛЕСЕ. Я ЖАДАЛА НЕШТА ФАНАБЭРЫСТАЕ І ПСЕЎДААЗІЯЦКАЕ, КАБ ПАЗЛАВАЦЬ БАЦЬКУ.
ОГО, ВЫ, НАПЭЎНА, СУР'ЁЗНА НЕНАВІДЗЕЛІ ХЛОПЦА.

І НЕ СПЫНЯЛА.
ЯГО СМЕРЦЬ – АДЗІНАЯ ДОБРАЯ РЭЧ, ЯКУЮ ПРЫНЁС ГЭТЫ ХАЛАКОСТ.



















**Фенуэй Парк. Бостан.**
**Зараз.**




ПАДЫДЗІ СЮДЫ! ДЫ ШТО З ТАБОЙ АДБЫВАЕЦЦА, ЧОРТ ЦЯБЕ ДЗЯРЫ? ТЫ ЗЛУЕШСЯ З ТАГО ЧАСУ, ЯК МЫ ПАКІНУЛІ КАНЕКТЫКУТ.
СПРАВА НЯ Ў ГЭТЫМ, ВІКТОРЫЯ. ГЭТА... НЯ ВАЖНА.
МЫ ЎСЕ РАЗЗЛАВАНЫЯ ТЫМ, ШТО Ў НАС ДАГЭТУЛЬ НЕ АТРЫМЛІВАЕЦЦА ЗЛАВІЦЬ ГЭТАГА, НІБЫ, САМЦА. АЛЕ Ж ГЭТА НЕ АПРАЎДАННЕ ДЛЯ ПАДОБНАГА...


А.
ТЫ ЎСЁ ЯШЧЭ РАССТРОЕНАЯ З-ЗА ТАГО, ШТО ЗДАРЫЛАСЯ З ГЭТАЙ ДЗЯЎЧЫНКАЙ.
ГЭТА НЕШТА НЯ ПРОСТА «ЗДАРЫЛАСЯ». Я... Я Ж **ЗАБІЛА** ЯЕ.


ТЫ ПАЗБАВІЛА ЯЕ АД ПАКУТ, ХІРОЎ. ЯНА ЎСЁ ЯШЧЭ ЧАПЛЯЛАСЯ ЗА СТАРЫ СВЕТ, І ТЫ АДПУСЦІЛА ЯЕ.
ШКАДА, ШТО МЫ БЫЛІ ВЫМУШАНЫ ЎЖЫЦЬ НАСІЛЛЕ. АЛЕ ДА ТАГО ЧАСУ, ПАКУЛЬ ХОЦЬ АДЗІН МУЖЧЫНА ЖЫВЕ НА ЗЯМЛІ, У НАС НЯМА ВЫБАРА АКРАМЯ ЯК ГУЛЯЦЬ ПА ІХ ПРАВІЛАХ.
Я ТАК ХАЧУ ЕСЦІ. УСЁ, ПРА ШТО Я ДУМАЮ, ГЭТА ПАСТА... А ЯШЧЭ, ЧАСАМ, Я ЖАДАЮ АДРЭЗАЦЬ САБЕ ПАЛЬЦЫ. НАВОШТА МНЕ ЖАДАЦЬ **ТАКОЕ?** Я...


ХІРОЎ, ЗЯМЛЯ-МАЦІ ПАСЛАЛА МНЕ ЦЯБЕ НЕЗДАРМА. ТВАЕ ВЕДЫ ГЭТАГА ГОРАДА АКАЗАЛІСЯ НЕАЦЭННЫМІ, А ТЫ САМА СТАЛА ВАРТЫМ ПРЫКЛАДАМ ДЛЯ КОЖНАЙ ДАЧКІ АМАЗОНІІ.
ВОСЬ, Я ЖАДАЮ, КАБ ТЫ ЎЗЯЛА ШТОСЬЦІ...


ГЭТА АСАБЛІВАЯ ПРЫБАЎКА ДА ТВАІХ ПАЙКОЎ. БЕЗУМОЎНА, Я Б БЫЛА ЎДЗЯЧНА, КАЛІ Б ТЫ НЕ КАЗАЛА ПРА ГЭТА СВАІМ СЁСТРАМ.
ГЭТА... ГЭТА МНЕ?


Я... Я КАХАЮ ЦЯБЕ, ВІКТОРЫЯ.
Я **ТАК** ЦЯБЕ КАХАЮ...




ВЕДАЕШ, У АПОШНІЯ ПАРУ МЕСЯЦАЎ Я З'ЕЎ СТОЛЬКІ КАНСЕРВАВАНЫХ ПЕРСІКАЎ, ШТО ЎЧОРА ЎВЕЧАРЫ ЛЕДЗЬ НЕ НАВАЛІЎ ТРЫ ВЯДРЫ.
БОЖА, МЯНЕ ЗАРАЗ ВЫРВЕ.
ДЫК ГЭТА, МАБЫЦЬ, ПРОСТА СМУРОД НАШАГА ЗАГАДЖАНАГА ВАГОНА СА СКАЦІНАЙ.


А ЯК ВАМ ГЭТА... **ПАМЯШКАННЕ** Ў ПАРАЎНАННІ З ІНШЫМІ МЕСЦАМІ, ДЗЕ ВАМ ДАВОДЗІЛАСЯ СПЫНЯЦЦА?
ХАЦІЦЕ ВЕРЦЕ, ХАЦІЦЕ НЕ, АЛЕ НАЙЛЕПШАЕ. МЫ З ЁРЫКАМ СПРАБАВАЛІ НЕ ПРЫЦЯГВАЦЬ УВАГУ, ТАКІМ ЧЫНАМ МЫ ЗВЫЧАЙНА ТЫРЧАЛІ НА ЗАКІНУТЫХ ПРЫВАЛАХ.
УВОГУЛЕ, ПЕРАД ТЫМ, ЯК ПАЕХАЦЬ З НЬЮ-ЁРКА Ў ВАШЫНГТОН, Я ПРАВЁЎ НОЧ У ПРЭЗІДЭНЦКІМ НУМАРЫ Ў «ЧАТЫРОХ СЕЗОНАХ».


ТАК? **НАВОШТА?**
ТАМУ ШТО МОГ?
САПРАЎДЫ, ГЭТА БЫЛО ДАВОЛІ СУМНА. БУДЫНАК БЫЎ ЗАБІТЫ БЯЗДОМНЫМІ ЖАНЧЫНАМІ, ЯКІЯ НЕ ВЫГЛЯДАЛІ АСАБЛІВА... АЗАДАЧАНЫМІ ТЫМ, ШТО АДБЫЛОСЯ.


І МЯНЕ ГЭТА ПРЫМУСІЛА ЗАДУМАЦЦА, А ХІБА ПРОСТА ТАК УСЁ ГЭТА ЗДАРЫЛАСЯ?
«ХАЙ НАСЕЛЯЦЬ ЗЯМЛЮ ПАКОРНЫЯ», І ТАМУ ПАДОБНАЕ...


ТЫ КАГО НАЗЫВАЕШ ПАКОРНЫМІ, ЛАЙНЮК?
ТЫ ВЕДАЕШ, ПРА ШТО Я.
ДАРЭЧЫ, ТЫ ЎВОГУЛЕ ВЕДАЕШ, ДЗЕ МЫ ЗАРАЗ?


ПАСЛЯ СЯМІ ГАДЗІН ЯЗДЫ? МАБЫЦЬ ПЕНСІЛЬВАНІЯ, МАБЫЦЬ АГАЯ.
СУР'ЁЗНА? УСЕ ГЭТЫЯ ГАРАДКІ ВЫГЛЯДАЮЦЬ АДНОЛЬКАВА Ў ЦЕМРЫ. НЯЎЖО ВАМ, ДАМАЧКАМ, ТАК СКЛАДАНА ЎКЛЮЧЫЦЬ ПАРУ ЛЯМПАЧАК?


ЭЛЕКТРОНЫ НЕ ЯГУЦЬ З РАЗЕТКІ МАГІЧНА, ЁРЫК. ТРЭБА ШМАТ ЧАЛАВЕЧЫХ РЭСУРСАЎ, КАБ КІРАВАЦЬ УСІМІ СТАНЦЫЯМІ І ПАДСТАНЦЫЯМІ.
І ГРУПА «КАЛПЕР» УЖО ПРАЦУЕ НАД ТЫМ, КАБ ЗАПУСЦІЦЬ ІХ ЗНОЎ.
ЁСЦЬ **ЯШЧЭ** ШМАТ ТАКІХ САКРЭТНЫХ АГЕНТАЎ?


ЗРАЗУМЕЛА. І НЯ ЎСІМ НАМ ДАВОДЗІЦЦА НЯНЬЧЫЦЬ ЧАРАЎНІКОЎ-АМАТАРАЎ.
УВОГУЛЕ Я АДДАЮ ПЕРАВАГУ ІЛЮЗІЯНІСТУ. ЦІ МАЙСТРУ ЗНІКНЕННЯЎ, ЦІ...
ПРАЎДУ КАЖУЧЫ, КАЛІ Я СКОНЧУ З ТАБОЙ, МНЕ ТРЭБА БУДЗЕ СКОНЧЫЦЬ ЗАДАННЕ, ЯКОЕ Я ПАЧАЛА ЯШЧЭ ДА ЭПІДЭМІІ.


ТЫ ЎПЭЎНЕНА?
ГЭТА НЕЙКІМ ЧЫНАМ ЗВЯЗАНА **З ГЭТЫМ**?


ДЗЕ ТЫ, ТРАСЦА ТАБЕ Ў БОК, ЯГО ЎЗЯЎ?
А, НУУ... АМПЕРСЭНД ГУЛЯЎСЯ З ГЭТЫМ НЯДАЎНА. ХУТЧЭЙ ЗА ЎСЁ ЁН ВЫЦЯГНУЎ ГЭТА З ТВАЁЙ ТОРБЫ, КАЛІ ШНЫРЫЎ У ПОШУКАХ ПЕРАКУСУ.
КАЛІ ГЭТА ШТОСЬЦІ КАШТОЎНАЕ, ТАБЕ ТРЭБА БЫЦЬ...


ДЗЯКУЙ.
ШТО ГЭТА, УВОГУЛЕ, ТАКОЕ?
ВЫГЛЯДАЕ ЯК ТОЙ СТАРЫ МЕДАЛЬЁН, ЯКІ НАСІЎ ШАРПТАН.


ГЭТА АМУЛЕТ ЕЛЕНЫ.
ЁН... **ЗАСАКРЭЧАНЫ**.


КАЛІ Б МНЕ ДАВАЛІ МАНЕТУ КОЖНЫ РАЗ, КАЛІ ТЫ ГЭТА КАЖАШ, У МЯНЕ Б УЖО БЫЛО...
НІЧОГА Б У ЦЯБЕ НЕ БЫЛО, **СУЧКА**.


УСЁ, ШТО Ў ЦЯБЕ ЁСЦЬ ПРЫНАЛЕЖЫЦЬ **НАМ**.


АМАЗОНКІ?

О, **НЕ**. АМЕРЫКАНСКІЯ ЧЫГУНАЧНЫЯ РЭЙДЭРЫ Ў ТЭМЕ НАШМАТ ДАЎЖЭЙ ГЭТЫХ ЁЎБАЛАЎ.
І КАЛІ ВЫ ЖАДАЕЦЕ ЕЗДЗІЦЬ ПА НАШЫХ РЭЙКАХ, ВАМ ТРЭБА ЗАПЛАЦІЦЬ УЗНОС ЗА...

ТОЛЬКІ НЯ ЗБРОЯ!

У НЕГРЫЛЫ ПУШКА!
НЕ НАДОЎГА.

ГЭЙ.
ГЭТА ШТО, **МУЖЫК**?

ТОЛЬКІ ПАЧНІ ЯК НЭЦІ ГАН, І Я ПРАЦЯГНУ ЯК БЕРТА ПА МЯНУШЦЫ «ТАВАРНЫ ВАГОН».
НЕ ВЫСОЎВАЙСЯ, ЁРЫК.

НЕ!

ЗЛЕЗЬ ДА ЛІХАМАТАРЫ...

Я ПАКЛАПАЧУСЯ ПРА ГЭТА.

...ЗЗ МЯНЕ!


ЁРЫК!


УХН!


ФАХ…




ПРАБАЧЦЕ МЯНЕ… Я ПРОСТА…
ЗА-БУДЗЬ-ЦЕСЯ.
МЫ ІДЗЕМ ЗА ІМ.


Я НЕ МАГУ СКОКНУЦЬ З ЦЯГНІКА, ЯКІ РУХА-ЕЦЦА!
ВЫ **МОЖАЦЕ**, І ВЫ **СКОКНІЦЕ**! А ЗАРАЗ ПАЙШЛІ! ЧЫМ ДАЎЖЭЙ МЫ СПРАЧАЕМСЯ, ТЫМ ДАЛЕЙ АД'ЯДЖАЕМ АД ЁРЫКА.


ІДЗІЦЕ БЕЗ МЯНЕ! Я ДАБЯРУСЯ ДА САН-ФРАНЦЫСКА САМАСТОЙНА! ВЫ АБОДВА МОЖА-ЦЕ СУСТРЭЦЦА СА МНОЙ ПАСЛЯ…
ВЫ МОЖАЦЕ Ж ПРОСТА ВЫ-ШПУРНУЦЬ ІХ З ВАГО-НА, 355!
ЦЯПЕР ВЫ – МАЯ АДКАЗНАСЦЬ, ДОКТАР. АКРАМЯ ГЭТАГА, ЯК ДОЎГА ВЫ МАЕЦЕ НА-МЕР ПРАБЫЦЬ У ВАГОНЕ З ДЗВЮ-МА ЛЯСНУТЫМІ ВАЛАЦУГАМІ?


ДОБРАЯ ІДЭЯ.


125
ААААААХХ!




ВІКТОРЫЯ, ЗДАЕЦЦА, МЫ КАГОСЬЦІ ЗНАЙШЛІ.
ХТО ГЭТА?
МЫ ЗНАЙШЛІ ГЭТУ ЖАНЧЫНУ Ў ЦЭНТРЫ ГОРАДА. ЯНА КАЖА, ШТО ВАЛОДАЕ ІНФАРМАЦЫЯЙ ПРА МУЖЫКОЎ.


БОЛЬШ ЧЫМ ПРА АДНАГО? ШТО ТЫ ВЕДАЕШ, СЯСТРА?
КАЛІ ЛАСКА... ВЫ ПАВІННЫ МНЕ ДАПАМАГЧЫ. МЯНЕ ЗАВУЦЬ НАТАЛЛЯ. ВЫ ПАВІННЫ ДАПАМАГЧЫ МНЕ ДАБРАЦЦА ДА МУЖЧЫН. Я ВЕДАЮ, ДЗЕ... ЭММ... ДЗЕ ЯНЫ ЗНАХОДЗЯЦЦА.
ЖЫВЫЯ? ДЗЕ?


KOSMICHESKAYA. ЯК ЖА ВЫ КАЖАЦЕ...
КОСМАС.


ЗРАЗУМЕЛА.
СКАЖЫ МНЕ, НАТАЛЛЯ, ГЭТАЯ «МУЖЧЫНЫ»... ВЫПАДКОВА НЕ МАЛЕНЬКІЯ? НЕ ЗЯЛЁНЫЯ? НЕ З ПЛАНЕТЫ МАРС? СКАЖЫ.


ГЭТА ЖАНЧЫНА ТРЫЗНІЦЬ, БЭКА. ТЫ МАРНУЕШ НАШ ЧАС. ДАЙЦЕ ЁЙ ТРОХІ НАШЫХ ПРЫПАСАЎ І АДПУСЦІЦЕ.
НЕ! КАЛІ ЛАСКА!


Я ПРЫЕХАЛА З САМАЙ МАСКВЫ! ВЫ ПАВІННЫ ДАПАМАГЧЫ МНЕ ДАБРАЦЦА ДА КАНЗАСА! «САЮЗ»! «САЮЗ» ПРЫЗЯМЛІЦЦА Ў КАНЗАСЕ! POZHALUJSTA!
ШТО НАКОНТ ТВАЁЙ ГРУПЫ, ДЖААН?
НІЧОГА КАНКРЭТНАГА... АДНАК МЫ РАЗМАЎЛЯЛІ З ЖАНЧЫНАЙ, ЯКАЯ КАЖА, ШТО БАЧЫЛА КАГОСЬЦІ НА МАТАЦЫКЛЕ. ГЭТЫ ХТОСЬЦІ НАКІРОЎВАЎСЯ Ў БОК ЧЫГУНКІ.


ЯЗДОК БЫЎ У ПРОЦІВАГАЗЕ?
ЯНА НЯ ВЕДАЕ, АЛЕ...
УПЭЎНЕНА, ШТО ГЭТА ТОЛЬКІ РАЗВЯЗАНЫ ГОЛАДАМ ЯЗЫК, АЛЕ ЯНА КЛЯЛАСЯ, ШТО ХТО Б НІ БЫЎ НА ГЭТЫМ МАТАЦЫКЛЕ, ЁН ВЁЗ З САБОЙ... МАЛПУ.
МАЛП...?


НЕ.
ГЭТАГА... НЯ МОЖА БЫЦЬ.




**Мэрысвіль. Агая.
Праз дзевяць гадзін.**



















comicsby.by
vertigocomics.com














ВЫ Ў ПА-РАДКУ?

# CYCLES

## Кругаварот. Глава другая

**BRIAN K. VAUGHAN** **PIA GUERRA**
WRITER / CO-CREATORS / PENCILLER
**JOSE MARZAN, JR.,** INKER
CLEM ROBINS, LETTERER PAMELA RAMBO, COLORIST
ZYLONOL, SEPARATIONS J.G. JONES, COVER ARTIST
STEVE BUNCHE, EDITOR
Y: THE LAST MAN CREATED BY BRIAN K. VAUGHAN AND PIA GUERRA

















ШТО ГЭТА ЎСЁ, ДА ЛІХАТАРЫ, ЗНАЧЫЦЬ?
НЕ ХВАЛЮЙСЯ.



ТЫ ХТО, БЛІН, ТАКАЯ?
МЯНЕ ЗАВУЦЬ СОНЯ. Я... ЗНАЙШЛА ЦЯБЕ І ТВАЙГО ЗВЯРКА. ТЫ БЫЎ БЯЗ ПАМЯЦІ ЛЯ НАШАГА СТУДНЯ.
ДЗЕ Я, ЧОРТ ЦЯБЕ ДЗЯРЫ, ЗНАХОДЖУСЯ?



У МЭРЫСВІЛЕ. У АГАЯ.
АДКУЛЬ ТЫ, ЁРЫК? Я ЛІЧЫЛА, ШТО ЎСЕ МУЖЧЫНЫ...
СТОЙ, АДКУЛЬ, ТРАСЦА ТАБЕ Ў БОК, ТЫ ВЕДАЕШ МАЁ ІМЯ?



А, ПРАЧЫТАЛА Ў ТВАЁЙ КАРТЦЫ, ЭММ... «МІЖНАРОДНАЕ БРАТЭРСТВА ЧАРАДЗЕЯЎ».



ТЫ САПРАЎДЫ МАГ? ЯК ДЭВІД БЛЭЙН?
ДЫК ВОСЬ ЯК ТЫ ВЫЖЫЎ? ТЫ... ЎЦЁК АД СМЕРЦІ?
НЕ, Я НЕ ЯК ДЭВІД БЛЭЙН, УРАТУЙ БОЖА. Я МАЙСТАР ЗНІКНЕННЯЎ.



ВЕЛЬМІ МІЛА.
АЛЕ, ПАСЛУХАЙ, МНЕ САПРАЎДЫ ТРЭБА ВЫБРАЦЦА АДСЮЛЬ.
УВОГУЛЕ... ТАБЕ ЛЕПЕЙ ЗАСТАВАЦЦА ПАД КОЎДРАЙ.



ГЭТА ЯШЧЭ ЧАМУ?



ЭММ...



БОЖА!
ШТО ТЫ ЗРАБІЛА З МАІМІ **ПОРТКАМІ**?



Я АДНЕСЛА ІХ ПАМЫЦЬ. ЯНЫ БЫЛІ ТРОХІ... **БРУДНЫЯ**, ЁРЫК.
ЗДАЕЦЦА, У ЦЯБЕ АДБЫЛАСЯ НЕВЯЛІКАЯ ПРЫГОДА Ў ІХ.
















*ГЭТА ЦЫТАТА З ПЕСНІ ДЭВІДА БОЎІ «ФЭЙМ».



















ННН...


ВЫ ВЕДАЕЦЕ, ЯКІ СЁННЯ ДЗЕНЬ?
ХТО?...
ГЭТА ДОКТАР МАН. А ЯК ВАС ЗАВУЦЬ, ВЫ ВЕДАЕЦЕ?


МАЁ ІМЯ, ЯНО... ЗАСАКРЭЧАНА.
ДОБРАЯ ДЗЯЎЧЫНКА.


ВЫ АТРЫМАЛІ ДАВОЛІ СУР'ЁЗНУЮ ТРАЎМУ ГАЛАВЫ, АГЕНТ 355. У МЯНЕ АТРЫМАЛАСЯ СПЫНІЦЬ КРЫВАЦЁК, АЛЕ ВАМ ТРЭБА Ў БАЛЬНІЦУ...
НЕ.


СКАРЫСТАЙЦЕ ГЭТА...


НІ Ў ЯКІМ РАЗЕ!
ГЭТА, НАПЭЎНА, ПРОСТА СТРАСЕННЕ, 355. Я НЕ ЗБІРАЮСЯ... ПАЗБАВІЦЬ ВАС АД ПАКУТ!


НЕ, СКАРЫСТАЙЦЕ ГЭТА ДЛЯ САМААБАРОНЫ... КАЛІ ВЕРНУЦЦА ЖАНЧЫНЫ, ЯКІЯ НАПАЛІ НА НАС.
А...
НУ, ДЗЯКУЙ. АЛЕ Я... НЯ ВЕЛЬМІ СЯБРУЮ СА ЗБРОЯЙ.


ЁН ВАМ СПАТРЭБІЦЦА. ВАМ ТРЭБА ПАКІНУЦЬ МЯНЕ, ДОКТАР. НЯ ДУМАЮ, ШТО ЗМАГУ ІСЦІ... А ВЫ НЯ МОЖАЦЕ МЯНЕ ПАНЕСЦІ.
ЗРАЗУМЕЛА МАГУ!


АЛЕ ВАМ НЯ ТРЭБА. ВЫ МОЖАЦЕ... ПАГОРШЫЦЬ СІТУАЦЫЮ. ВАМ ЛЕПЕЙ ВЯРНУЦЦА З ДАПАМОГАЙ... ПАЗНЕЙ. А ЗАРАЗ ВАМ НЕАБХОДНА ЗАНЯЦЦА БОЛЬШ ВАЖНЫМІ СПРАВАМІ.
НАПРЫКЛАД?
НАПРЫКЛАД, ЗНАЙСЦІ ЁРЫКА...


...ПЕРШ ЧЫМ ГЭТА ЗРОБІЦЬ ХТОСЬЦІ ІНШЫ.




**Бостан. Масачусетс.**
**Зараз.**





















ПРАКЛЁН.


ТЫ СУР'ЁЗНА ЛІЧЫЛА, ШТО ЗМОЖАШ УЦЯЧЫ АД НАС? ТЫ ХОЦЬ ВЕДАЕШ, ХТО МЫ ТАКІЯ?
ВЫ ГЭТЫЯ, ЯК ІХ... ЦЯЛУХІ З АМАЗОН-КРОПКА-КОМ.


ПРАВІЛЬНА БУДЗЕ – ДАЧКІ АМАЗОНКІ. МЯНЕ ЗАВУЦЬ ВІКТОРЫЯ. І ГЭТЫ МАТАЦЫКЛ ПРЫНАЛЕЖЫЦЬ МНЕ. ЯК ЁН МОГ ПЕРАЙСЦІ Ў ВАЛОДАННЕ ДА НЕЙКАГА КАНДУКТАРА?
МНЕ... ДАЛА ЯГО НЕЙКАЯ ДЗЯЎЧЫНА Ў ПРОЦІВАГАЗЕ, ЗРАЗУМЕЛА? ЯНА АБМЯНЯЛА ЯГО НА ПРАЕЗД У КАЛІФОРНІЮ. А ЗАРАЗ ДАПАМАЖЫЦЕ МНЕ... КАЛІ ЛАСКА.


ЗАПЫТАЙ У ЯЕ, ЦІ БЫЛА Ў ГЭТАГА ЧАЛАВЕКА МАЛПА, ВІКТОРЫЯ.
ЗАБУДЗЕШ ТЫ ПРА ГЭТАГА ПРЫМАТА ЦІ НЕ, ХІРОЎ? ГЭТА ЧУТКА БЫЛА ЯЎНАЙ ПУСТЫШКАЙ. МЫ ШУКАЕМ ЗАМАСКІРАВАНАГА САМЦА, А НЕ МАРКІТАВАНАГА ГАНДЛЯРА ОРГАНАЎ.


СЛУХАЙЦЕ ЎСЕ! ЗДАЕЦЦА, НІБЫ МЫ ЗНАЙШЛІ АПОШНЯГА ЎЛАДАРА НЯВОЛЬНІКАЎ, АЛЕ Я НЯ МАЮ НАМЕР ЕХАЦЬ ПРАЗ УСЮ КРАІНУ, КАБ ДАВЕДАЦЦА, ШТО НАС НАКІРАВАЛІ ПА БЕСПАДСТАЎНЫМ СЛЕДЗЕ.
РАЗДЗЯЛІЦЕСЯ І ДАПЫТАЙЦЕ КОЖНАГА ВЫРАДКА Ў ПАЛАТКАХ ЛЯ МЯСЦОВЫХ ДАРОГ. ПЕРАКАНАЙЦЕСЯ, ШТО ХТОСЬЦІ ЯШЧЭ БАЧЫЎ ЧАЛАВЕКА Ў ПРОЦІВАГАЗЕ, ЯКІ САДЗІЎСЯ НА ЗАХОДНІ ЦЯГНІК.


І ЗАПОМНІЦЕ, НЯМА ВЕЛЬМІ ВЯЛІКАЙ ЦАНЫ ЗА КАРАЛЯ ТВАЙГО СУПЕРНІКА.


ДЫК, ЭММ... КОЛЬКІ З МЯНЕ ЗА ЧЫСТЫЯ ТРУСЫ?


У ЛІК УСТАНОВЫ.
ГЭТА ДОБРА, ТАМУ ШТО ЎСЁ, ШТО Я ТАБЕ МОГ ПРАПАНАВАЦЬ, ГЭТА АМПЕРСЭНД... А ЁН БЫ БЫЎ ДЛЯ ЦЯБЕ КАРЫСНЫ, ЯК СІФІЛІС У АПОШНЯЙ СТАДЫІ.
РРРРРР.


НУУ, МНЕ ПАДАБАЕЦЦА ТВАЯ МАЛПАЧКА! ЯНА – САЛОДКАЯ!
ТАКСАМА ЯК ПАХ ПАДПАЛЕНАГА ЦЕЛА. НЯ ЗНАЧЫЦЬ, ШТО ДОБРА.


ВА ЎСЯЛЯКІМ ВЫПАДКУ, ДЗЯКУЙ ЗА ЎСЁ, СОНЯ. Я САПРАЎДЫ ЎДЗЯЧНЫ ЗА... ЗА ДАБРЫНЮ ДА НЕЗНАЁМЦА І ТАМУ ПАДОБНАЕ.
ТЫ ПАКІДАЕШ МЯНЕ? АЛЕ... ТЫ Ж НАВАТ НЕ ПАЗНАЁМІЎСЯ З АСТАТНІМІ!


СОНЯ, БЫЛО ПРЫЕМНА... НАДЗВЫЧАЙНА, ЯК У «НАЗАД У БУДУЧЫНЮ»... АЛЕ Ў МЯНЕ ЁСЦЬ СПРАВЫ.
АКРАМЯ ТАГО, МНЕ ЛЕПЕЙ ПАКІНУЦЬ ГЭТА МЕСЦА, ПЕРШ ЧЫМ ХТО-НЕБУДЗЬ ЗНОЙДЗЕ МЯНЕ ТУТ.
ЁРЫК, ГЭТА ГАРАДОК, ДЗЕ ЖЫВУЦЬ ШЭСЦЬДЗЕСЯТ СЕМ ПЛЯТКАРАК...


НЯЎЖО ТЫ ЛІЧЫЎ, ШТО Я ЗМАГУ ТРЫМАЦЬ У САКРЭЦЕ КАГОСЬЦІ ЯК ТЫ?

ВОСЬ ЛАЙНО.

МЭРЫСВІЛЬ, ГЭТА ЁРЫК.
ЁРЫК, ГЭТА МЭРЫСВІЛЬ.
ВЕЛЬМІ ПРЫЕМНА.

ТЫ АПОШНІ?
Я... Я НЯ ВЕДАЮ.
НАПЭЎНА.
ПРАБАЧЦЕ.

МНН.

МНЕ ЗДАЕЦЦА, ЦІ Ў ГЭТЫМ ГОРАДЗЕ САПРАЎДЫ НЯМА ДЗЯЦЕЙ?
САПРАЎДЫ. Я... Я ДУМАЮ, ШТО Я САМАЯ МАЛАДАЯ ТУТ.
ШТО Ж ЗДАРЫЛАСЯ З УСІМІ МАЛЕНЬКІМІ

О, БОЖА.


ЛІХТАРЫ. ГЭТА... ГЭТА Ж НЯ ГАЗАВЫЯ ЛЯМПЫ.
І ШТО?


А ТОЕ, ШТО Я НЯ БАЧЫЎ ЭЛЕКТРЫЧНАСЦІ ШМАТ ТЫДНЯЎ.
ПРАЎДА? ВЯРНУЦЬ ДА ПРАЦЫ НАШУ ЭЛЕКТРА-СТАНЦЫЮ БЫЛО ЗУСІМ НЕ СКЛАДАНА. УЗНАВІЦЬ ГІДРАПОННЫЯ ЦЯПЛІЦЫ, ВОСЬ ГЭТА БЫЛО СКЛАДАНА.


У ВАС ЁСЦЬ ЕЖА?ДЫ ЯШЧЭ І СВЕЖАЯ?
ЗРАЗУМЕЛА. МЫ НА-ВАТ ПРАГАЛАСАВАЛІ ЗА ТОЕ, КАБ ЗАБІЦЬ КАРОВУ СЁННЯ, ДЛЯ ЦЯБЕ.
І НЕ АДЧУВАЙ СЯБЕ ВІНАВАТЫМ. ЛІДЗІЯ ЎСЁ РОЎНА ЖАДАЕ, КАБ МЫ АД ІХ УСІХ ПАЗБАВІЛІСЯ, ПАКУЛЬ ЯНЫ НЕ ПАДЧАПІЛІ АДНУ З ХВА-РОБ, ЯКІЯ ЛУНАЮЦЬ ВАКОЛ.


ЛІДЗІЯ?
КХЭМ.


СКЛАДАНА ПАВЕРЫЦЬ, ШТО МАЛЕНЬКІЯ БЕЗДА-ПАМОЖНЫЯ ЖАНЧЫНЫ МОГУЦЬ СПРАВІЦЦА БЯЗ ВАС, А?


О, Я... Я НЕ ЖАДАЎ НІКОГА ПАКРЫЎДЗІЦЬ, МЭМ. ПРОСТА НЕКАТОРЫЯ З ГАРАДОЎ, ДЗЕ Я БЫЎ, ВЫ-ГЛЯДАЮЦЬ ЯК ПАСЛЯ ТРЭ-ЦЯГА АКТА «ГАДЗІЛЫ», А ГЭТА ЎСЁ ЯШЧЭ ЯК МЭЙБЕРЫ.
ГЭТА ТАМУ, ШТО ВА ЎСІХ НАС БЫЛО **ДА-СТАТКОВА** ВОПЫТУ, КАБ РАБІЦЬ УСЁ БЕЗ **АДЗІНАГА** МУЖЫКА Ў АКРУЗЕ.
ЛІДЗІЯ...


У 42-М, АДЗІНЫМІ ХЛОПЦАМІ, ЯКІЯ ЗАСТАЛІСЯ Ў КРАІНЕ, БЫЛІ МАРКІТАВАНЫЯ НЕПРЫГОДНІКІ, ЯКІЯ СПРАБАВАЛІ ЗАЛЕЗЦІ Ў НАШЫ КАМБІНЕЗОНЫ. ДЗЯЎЧЫНЫ НЕ БЫЛІ **ЧАСТКАЙ** ПРАЦОЎНАЙ СІЛЫ... МЫ **БЫЛІ** ПРАЦОЎНАЙ СІЛАЙ.
МНЕ БЫЛО ПЯТНАЦЦАЦЬ, КАЛІ Я ПАЧАЛА РАБІЦЬ ЗАКЛЁПКІ НА «ЛОКХІДЗЕ» ДЛЯ ВАЕННЫХ ПАСТАВАК. У ШАСНАЦЦАЦЬ Я ЗАЙМА-ЛАСЯ ЗВАРКАЙ АБОЙМАЎ ДЛЯ 50-ЦІ МІЛІМЯТРОВЫХ ПАТРОНАЎ. НЕ БЫЛО НІЧОГА, ЧАГО Б НЕ ЎМЕЛА.


ЧОРТ, КАЛІ Б НІХТО З НА-ШЫХ ХЛОПЦАЎ НЕ ВЯРНУЎСЯ ДАДОМУ, МЫ Б ЦУДОЎНА СПРАВІЛІСЯ З ГЭ-ТЫМ МЕСЦАМ НЯ ГОРШ... І НАВАТ ЛЕПЕЙ.
ПАЧАКАЙЦЕ, ВЫ СКАЗАЛІ, ШТО ВА **ЎСІХ** ВАС БЫЎ ВО-ПЫТ ЖЫЦЦЯ БЕЗ МУЖЧЫН. ГЭТА ЯК?
У СЭНСЕ, БОЛЬШАСЦЬ ГЭТЫХ ЖАНЧЫН ВЕЛЬМІ МАЛАДЫЯ. ЯНЫ НЕ МАГЛІ ЗАЙМАЦЦА СПРАВАЙ «КЛЯПАЛЬШЧЫЦЫ РОЗІ» З ВАМІ... ХІБА НЯ ТАК?


НУ, ЭМ... ДУМАЮ, ЛІДЗІЯ МОЖА ЎСЁ РАСТЛУМАЧЫЦЬ. А МЫ ТЫМ ЧАСАМ ЗГАТУЕМ ТАБЕ ВЯЧЭРУ.
ПРАБАЧ, СОНЯ, АЛЕ МНЕ САПРАЎДЫ ТРЭБА ЗНАЙСЦІ МАІХ...
ЁРЫК!


ДОКТАР МАН!


УСЁ НАРМАЛЬНА, ЛЭДЗІ. ЯНА СА МНОЙ.
ДОК, ЯК У ВАС АТРЫМАЛАСЯ...
ЁРЫК, ГЭТА... ГЭТА 355.


У ЯКІМ ЧАСАВЫМ ПОЯСЕ? УЖО АМАЛЬ 7:30.
НЕ, 355 – ГЭТА МАЯ СЯБРОЎКА.
ЯНА... ЯНА ПРАЦУЕ НА **ЎРАД**.




І ЯНА ПАРАНЕНА. **ЦЯЖКА.** МНЕ ПАТРЭБНА ДАПАМОГА, КАБ ПЕРАНЕСЦІ ЯЕ СЮДЫ. КАЛІ ЛАСКА.
НУ, МЫ ЗМАЙСТРАВАЛІ ІМПРАВІЗАВАНЫЯ НАСІЛКІ, КАБ ПЕРАНЕСЦІ ЦЯБЕ, ЁРЫК.
ВЯДЗІ НАС ДА ІХ!


НАМ ТРЭБА СПЯШАЦЦА. ЯНА ТАМ ЗУСІМ АДНА.
Я СПАДЗЯЮСЯ НА ГЭТА.


ТАК, ТАК, ТАК... ШТО ГЭТА Ў НАС **ТУТ**?


ШТО ТЫ ТУТ ЗАБЫЛА, СУЧКА?


ВЫ РАСПАЎСЮДЖВАЕЦЕ ЧУТКІ Ў ЛАГЕРЫ. КАЖУЦЬ ВЫ БАЧЫЛІ МУЖЧЫНУ.
РАСКАЖЫЦЕ.
А ТО ШТО? МЫ СУСТРАКАЛІСЯ З АМАЗОНКАМІ РАНЕЙ. ВЫ, ЛАЙНОВЫЯ ЛЕСБІ, НАВАТ НЕ ЎМЕЕЦЕ КАРЫСТАЦЦА ВАШЫМІ ЛУКАМІ.


ТЫ... ТЫ МАЕШ РАЦЫЮ.


ДЫК ЧАМУ ТАБЕ ТАДЫ НЕ ЗВАЛІЦЬ ДА СВАІХ МАЛЕНЬКІХ ПОХВАЛІЗАК І НЕ АДЧАПІЦЦА АД НАС...


SHINK


АААААХ!
О БОЖА, ЛЯСНУТАЯ!


КУРВІСКА, ГЭТА Ж МАЯ РУКА!


БАМ.


ЛЯГЧЭЙ...
МЕНАВІТА. ЗАБІВАЦЬ – ГЭТА ТАК ЛЁГКА.
ПРАСЦЕЙ, ЧЫМ ЗАЙМАЦЦА МЫЦЦЁМ. ЗАБОЙСТВА... НАВАТ СМУРОДЗІЦЬ ЯК МЫЦЦЁ. Я РАБІЛА ГЭТА. А ТЫ РАБІЛА? ЗАБІВАЛА, У СЭНСЕ, НЯ МЫЛА? ХА.


БОЖА, ДЫ ЯНА Ж ПРОСТА ЛЯСНУТАЯ!
ЗАБІ ЗЯПУ, ВАЙНОНА.


СЛУХАЙ, МЫ... МЫ ШТОСЬЦІ БАЧЫЛІ, ДОБРА? КАЛІ МЫ ЗБІРАЛІ ПАДАТАК НА НАЧНЫМ ЦЯГНІКУ... У МУЖЫКА БЫЛА МАЛАЛЕТНЯЯ МАЛПА.
МЫ СПРАБАВАЛІ СХАПІЦЬ ХЛОПЦА, АЛЕ НАС З СЯБРОЎКАЙ ВЫРУБІЛА АДНА З ЦЁЛАК, ЯКІЯ БЫЛІ З ІМ. ТАМУ МЫ ЗЛАВІЛІ ЗВАРОТНЫ ЎСХОДНІ І...
ГЭТЫ МУЖЧЫНА. ВЫ ЧУЛІ ЯГО ІМЯ?


ТАК, ЭМ... НЕЙКІ «РЫК» ЦІ НАКШТАЛТ ГЭТАГА.
ЁРЫК?!
НАПЭЎНА. ШТО? ТЫ.. ВЕДАЕШ ЯГО?


З САМОГА ЯГО НАРА-ДЖЭННЯ.

















comicsby.by
vertigocomics.com

ten years on the edge
VERTIGO X
ISSUE 8
APR 2003

BRIAN K. VAUGHAN
PIA GUERRA
JOSE MARZAN JR.

SUGGESTED FOR MATURE READERS

COMICS .BY
КОМІКСЫ ПА-БЕЛАРУСКУ

Y – АПОШНІ МУЖЧЫНА #08
ПЕРАКЛАД: АРТУР БАРАДАЧОЎ
АФАРМЛЕННЕ: СЯРГЕЙ КОЗЫРАЎ




**Бостан. Масачусетс.**
**Зараз.**

































ЗАБІЦЬ ЯГО.

# CYCLES

## Кругаварот. Глава трэцяя

BRIAN K. VAUGHAN PIA GUERRA
WRITER/CO-CREATORS/PENCILLER
JOSE MARZAN JR., INKER

CLEM ROBINS, LETTERER PAMELA RAMBO, COLORIST
J.G. JONES, COVER ARTIST STEVE BUNCHE, EDITOR

Y: THE LAST MAN CREATED BY BRIAN K.VAUGHAN AND PIA GUERRA




**Мэрысвіль. Агая.**
**Праз восем гадзін.**
















У ЧЫМ СПРАВА, ТЭС?
ЧУЖЫНЦЫ... ТЫ Ж НІЧОГА ІМ НЕ СКАЗАЛА, Я СПАДЗЯЮСЯ?


«ЧУЖЫНЦЫ»?
ЧАГО ГЭТА ТЫ ЗНЯНАЦКУ ТАК РАЗЛЮТАВАЛАСЯ?
ТЫ **СКАЗАЛА** ІМ ШТО-НЕБУДЗЬ?
НЕ. МЫ УТРОХ ЛЕДЗЬ СЛОВА СКАЗАЛІ. МЫ БЫЛІ ЗАНЯТЫ ДАСТАЎКАЙ ГЭТАЙ ЛЭДЗІ-САКРЭТНАГА АГЕНТА СЮДЫ.
А ШТО? ЧАГО ГЭТА ТЫ ТАК ПЕРАПУЖАЛАСЯ?


СОНЯ, МЫ НЯ ВЕДАЕМ АБСАЛЮТНА НІЧОГА ПРА ГЭТАГА ХЛОПЦА І ЯГО... СЯБРОЎ З УРАДА. ЯНЫ МАГЛІ ПРЫЙСЦІ СЮДЫ, КАБ **ЗАБРАЦЬ** ГЭТА ЎСЁ Ў НАС.
ТАК ШТО ПАКУЛЬ МЫ АД ІХ НЕ ПАЗБАВІМСЯ...


...ТРЫМАЙ РОТ НА ЗАМКУ І НЕ РАСКАЗВАЙ, ХТО МЫ НА САМОЙ СПРАВЕ ТАКІЯ.




УСЁ НАРМАЛЬНА?
ТЫ ПРА ТЭС? ТАК, ЯНА ПРОСТА НАГАДАЛА МНЕ, КАБ Я ПАВОДЗІЛА СЯБЕ ПРЫСТОЙНА З ТАБОЙ І ЎСЁ ТАКОЕ. У НАС ТУТ ДАЎНЮТКА НЕ БЫЛО ХЛОПЦАЎ.


А ЯНЫ З... ТОЙ, ІНШАЙ ДАМАЙ, ЯНЫ ШТО...?
ПАРТНЁРЫ? ТАК.
ГЭТА ПРАБЛЕМА?
НЕ! НІ Ў ЯКІМ РАЗЕ. МНЕ ПРОСТА ЦІКАВА, УСЕ Ў ГЭТЫМ ГОРАДЗЕ... НУ, ВЕДАШ?
ЁРЫК, СПАТРЭБІЦЦА **НАШМАТ** БОЛЬШАЕ, ЧЫМ СМЕРЦЬ УСІХ МУЖЧЫН, КАБ ПРЫМУСІЦЬ МЯНЕ ЛІЗАЦЬ КІСКІ.
ТЫ Ж МЕНАВІТА ГЭТА ЖАДАЎ ДАВЕДАЦЦА?
ЧОРТ, А ТЫ НЯ ХОДЗІШ КРУГОМ І НАВАКОЛ, ТАК?
ТАК, ДАРЭЧЫ.







*ЕРЫК ЗГАДАЎ ДЗВЕ ФРАЗЫ, ХАРАКТЭРНЫЯ ДЛЯ ЖЫХАРОЎ КЛІЎЛЕНДА.

























Я НЕ МАГУ ГЭТА ЗРАЗУМЕЦЬ, АЛЕ Я ЖАДАЮ ЦЯБЕ...


Я... НАВАТ І НЯ ВЕДАЮ, ШТО СКАЗАЦЬ.


У СЭНСЕ, ТЫ, БЕЗУМОЎНА, ВЕЛЬМІ...
Я ЖАДАЮ ЦЯБЕ... ЁРЫК.


ЁРЫК?


УНХ!


БОЖА, ТЫ КОЛЕШ ДРОВЫ ЯК ДЗЯЎЧЫНКА.
НУ ПРАБАЧЦЕ, ПОЛА БАНЬЯН, АЛЕ Я МАЙСТАР ЗНІКНЕННЯЎ, А НЕ ПРАКЛЯТЫ ДРЫВАСЕК.


А ТЫ БЫ МОГ ПАКАЗАЦЬ МНЕ, ЯК ЗНІКНУЦЬ?
АДКУЛЬ?


З МЭРЫСВІЛЯ.


НАВОШТА ТАБЕ ЖАДАЦЬ ПАКІНУЦЬ ГЭТА МЕСЦА? ГЭТА Ж ЧОРТАВА ЎТОПІЯ.
ТЫ ЯШЧЭ НЯ БАЧЫЎ НАС У ЧАС МЕСЯЧНЫХ. ВА ЎСІХ НАС ЦЫКЛЫ СІНХРАНІЗАВАНЫ, ТАМУ КОЖНЫ МЕСЯЦ ГЭТЫ ГОРАД ПЕРАТВАРАЕЦЦА Ў КРЫВАВЫ КАЛАЎРАТ СЦЯРВОВАСЦІ.


ЭМ...
Я ЖАРТУЮ, ЁРЫК. МНЕ ТУТ ПАДАБАЕЦЦА. АДЗІНАЯ ПРЫЧЫНА ПАЕХАЦЬ ДЛЯ МЯНЕ – ГЭТА МАГЧЫМАСЦЬ БЫЦЬ ПОБАЧ З ТАБОЙ.


ВО.
НУ, Я... Я БЫЎ БЫ НЯ СУПРАЦЬ, СОНЯ, АЛЕ МАЯ СІТУАЦЫЯ ЗЛЁГКУ... ЗАБЛЫТАНАЯ.
ДУМАЕШ, Я Б РАЗБІЛА ТВАЕ ПЛАНЫ, ТАК?


ШТО ГЭТА ЗНАЧЫЦЬ?
УСЁ ФАЙНА, ЁРЫК. ТЫ ХЛОПЕЦ. МАБЫЦЬ НАВАТ АПОШНІ. НА ТВАІМ МЕСЦЫ Я Б ТАКСАМА СТАРАЛАСЯ АТРЫМАЦЬ СТОЛЬКІ ДЗЯЎЧЫНАК, КОЛЬКІ Б ЗМАГЛА. Я Б НЕ ПАЖАДАЛА, КАБ ТОЛЬКІ АДНА ТАРМАЗІЛА МЯНЕ.
НЕ, Я Ж КАЗАЎ ТАБЕ, У МЯНЕ ЁСЦЬ...


ДЗЯЎЧЫНА. Я ВЕДАЮ. АЛЕ ЯНА Ж ДАЛЁКА, А ТЫ ТУТ.
МАБЫЦЬ ГЭТА... ЦЯЖКА.


ТАК.
ТАК... І ЁСЦЬ.


АЛЕ ПА НЕЙКАЙ ДЭБІЛЬНАЙ ПРЫЧЫНЕ НЕХТА ТАМ НАВЕРСЕ ВЫРАШЫЎ, ШТО **МЕНАВІТА** Я ПАВІНЕН ПЕРАЖЫЦЬ УСЁ ГЭТА... ТАМУ Я СПРАБУЮ НЕ КАРЫСТАЦЦА СІТУАЦЫЯЙ.
ТЫ ВЕРЫШ У БОГА? ПАСЛЯ ЎСЯГО, ШТО ЗДАРЫЛАСЯ?


НЯ ВЕДАЮ... РАНЕЙ ВЕРЫЎ. А ЗАРАЗ, НАПЭЎНА, Я АДЗІН З ГЭТЫХ «КАТАЛІКОЎ, ЯКІЯ АДВЯРНУЛІСЯ».
А, ГЭТА ЗНАЧЫЦЬ, ШТО ЎСЯ ГЭТА «СВЯТАЯ АДДАНАСЦЬ» ДЗЯЎЧЫНЕ – ГЭТА НА САМОЙ СПРАВЕ ТОЛЬКІ ШЫРМА ТВАЙГО ІМКНЕННЯ БАЙКАТАВАЦЬ СЭКС?
МАГЧЫМА... АЛЕ БЭТ – ПЕРШАЯ ДЗЯЎЧЫНА, З ЯКОЙ Я ПЕРАСПАЎ. ЯНА БЫЛА АДЗІНАЙ РЭАЛЬНАЙ ЖАНЧЫНАЙ, ЯКАЯ ЎСЁ ЯШЧЭ ЖАДАЛА МЯНЕ, КАЛІ Я БЫЎ БЕСПРАЦОЎНЫМ НЯЎДАЧНІКАМ. ХОЦЬ З-ЗА ГЭТАГА Я ЎЖО ПАВІНЕН БЫЦЬ АДДАНЫМ ЁЙ.


Я ЎПЭЎНЕНА, ШТО ШМАТ ДЗЯЎЧЫН ЖАДАЛІ ЦЯБЕ, ЁРЫК.


ПРОСТА ЯНЫ НЯ ВЕДАЛІ, ЯК ТАБЕ ГЭТА СКАЗАЦЬ.


ДЫК ТЫ ЗБІРАЕШСЯ ПАКАЗАЦЬ МНЕ ПАРУ ФОКУСАЎ, ЦІ ШТО?
ЯК? У МЯНЕ НЯМА НАРУЧНІКАЎ... УЦІХАМІРВАЛЬНАЙ САРОЧКІ, НІЧОГА...
НЯВАЖНА. ПРОСТА ЗРАБІ ШТО-НЕБУДЗЬ.


ДОБРА, СТАЎЛЮ СОТНЮ ДОЛАРАЎ, ШТО ЎГАДАЮ, ЯКОГА КОЛЕРУ ТРУСІКІ НА ТАБЕ.
У ЦЯБЕ НЯМА СОТНІ ДОЛАРАЎ.
ДОБРА, СТАЎЛЮ СВОЙ ГАДЗІННІК.


ДОБРА.
ДЫК ШТО... ЯКІЯ ЯНЫ?


ЗАРАЗ ПАГЛЯДЗІМ... ТАК, ТВАЕ ТРУСІКІ... **ЧОРНЫЯ.**


НЕ ЎГАДАЎ.
НА МНЕ **НЯМА** ТРУСІКАЎ.


ДАВЯДЗІ.


ДАВАЙ ГАДЗІННІК, КРЭСКІН.


ЯК ПАЖАДАЕШ.


ГЭЙ.
ГЭТА Ж **МОЙ** ГАДЗІННІК...


ЯК ГЭТА ТЫ...?








Я ТАК НЕ МАГУ.
ТЫ... НЯ МОЖАШ?


ТАК НЕЛЬГА, ЁРЫК.
ТЫ... ТЫ МАЕШ РАЦЫЮ.
ЧОРТ, ЯКІ Ж Я НЯГОДНІК. Я...


СПРАВА НЕ Ў ТАБЕ, ЁРЫК. ТЫ... САПРАЎДЫ ДОБРЫ ЧАЛАВЕК.
ВЕЛЬМІ ДОБРЫ ДЛЯ ТАКОЙ, ЯК Я.


ОГО.
НІКОЛІ Б НЕ ПАДУМАЎ, ШТО ЗНОЎ ПАЧНУ НЕ-ШТА ПАДОБНАЕ.


УСЁ НЯ ТАК, ЯК ТЫ ПАДУМАЎ. Я НАРКАМАНКА, ЗРАЗУМЕЎ? МАРКІТАВАНЫ **СТАРЧАК**.
ЗАРАЗ Я ЧЫСТАЯ. АЛЕ ПРАЎДА Ў ТЫМ, ШТО КАЛІ Б БЫЎ ЯШЧЭ ХОЦЬ НЕЙКІ ШАНЦ ЗНАЙСЦІ МЕТ, Я Б НАПЭЎНА СЯДЗЕЛА НА ІМ.


БОЖА.
Я... Я ШКАДУЮ. У МЯНЕ БЫЎ КУЗЭН, ЯКІ ПАМЁР АД ПЕРАДАЗІРОЎКІ.
ТАДЫ ТЫ БУДЗЕШ НЕНАВІДЗЕЦЬ МЯНЕ, ЁРЫК... ТАМУ ШТО Я ЯШЧЭ І АСУДЖАНЫ ГАНДЛЯР.


ШТО?


Я І ХЛОПЕЦ, З ЯКІМ Я СУСТРАКАЛАСЯ. МЫ АБОДВА ЎЖЫВАЛІ. Я ДАПАМАГАЛА ВАРЫЦЬ ДУР, АЛЕ Я ЗАЎСЁДЫ РАБІЛА МАКСІМУМ НА ДВАІХ.
НЯ ТОЕ, ШТО Б ГЭТА БЫЛО АПРАЎДАННЕМ. Я ВЕДАЮ, ШТО ГЭТА БЫЛО ЖУ-ДАСНА. Я ПРО-СТА...


МОЙ ХЛОПЕЦ ПАЧАЎ ГАНДЛЯВАЦЬ ЗА МАЁЙ СПІНАЙ. КОПЫ ХУТКА ЗЛАПІЛІ ЯГО, І, КАБ ПАМЕНШЫЦЬ САБЕ ТЭРМІН, ЁН СКАЗАЎ ІМ, ШТО МЕНАВІТА Я БЫЛА ДЗЁЎБАНЫМ ЗАВА-ДАТАРАМ.
ЯМУ ДАЛІ 15 МЕСЯЦАЎ... МНЕ – 10 **ГАДОЎ**.
ШТО ГЭТА ЗНА-ЧЫЦЬ? ТЫ МАЕШ НА ЎВАЗЕ, ШТО ТЫ... НЕЙКАЯ **ЎЦЁКЛАЯ ЗЛАЧЫНКА**?


ТЫ ДА ГЭТАГА ЧАСУ ТАК І НЕ ЗРАЗУМЕЎ?
УСЕ ЖАНЧЫНЫ Ў МЭРЫСВІЛІ – ЗЛАЧЫНКІ.


ГЭТА ПРЫТУРЭМНЫ ГАРАДОК, ЁРЫК. МЕНШ ЧЫМ ЗА МІЛЮ АДСЮЛЬ ЗНАХОДЗІЦЦА ЖАНОЧАЯ КАЛОНІЯ.
ВОСЬ ЛАЙНО...


КАЛІ ЎСЁ МУЖЧЫНЫ ПАМЕРЛІ, НАЧАЛЬНІЦА ВЫРАШЫЛА АДПУСЦІЦЬ НАС... ЗАМЕСТ ТАГО, КАБ ПАКІНУЦЬ НАС У КАМЕРАХ ПАМІРАЦЬ АД ГОЛАДУ.
БОЛЬШАСЦЬ ВАРТАЎНІЦ ЖЫЛІ Ў ХАТАХ, ЯКІЯ ЗАРАЗ ЗАЙМАЕМ МЫ. ЯНЫ З'ЕХАЛІ МЕСЯЦЫ ТАМУ. ЛІЧУ, ЯНЫ НЕ ЗМАГЛІ ЗАСТАВАЦЦА ТАМ, ДЗЕ ПАМЕРЛІ ІХ МУЖЫ... І МАЛЕНЬКІЯ ХЛОПЧЫКІ.


ЁРЫК, НІВОДНАЯ З НАС НЕ ЖАДАЛА ТРАПІЦЬ НА СВАБОДУ ТАКІМ ЧЫНАМ... АЛЕ ТАК АТРЫМАЛАСЯ.
МЫ З ІНШЫМІ ЗНЯВОЛЕНЫМІ НЯДРЭННА ЖЫВЕМ У ЗГОДЗЕ, І ВОСЬ УЖО НЕКАЛЬКІ ГАДОЎ МЫ КЛАПОЦІМСЯ ПРА СЯБЕ. ТАКІМ ЧЫНАМ ГЭТА СУПОЛЬНАСЦЬ ТОЛЬКІ ЗНАЙШЛА СВАЮ ПРЫРОДНУЮ НІШУ.


ПРАБАЧ, ШТО НЕ СКАЗАЛА ТАБЕ РАНЕЙ. АЛЕ, ДУМАЮ, ТЫ РАЗУМЕЕШ, ЧАМУ МЫ НЕ ЖАДАЕМ, КАБ ЛЮДЗІ ДАВЕДАЛІСЯ. МЫ... МЫ ПРОСТА ЖАДАЕМ ЖЫЦЬ СПАКОЙНА.
ТАМУ, КАЛІ ЛАСКА, ПААБЯЦАЙ, ШТО ГЭТА ЗАСТАНЕЦЦА ПАМІЖ НАМІ, ДОБРА?


ДОБРА?


ЯНЫ ЗЛАЧЫНЦЫ!


ПРА ШТО ТЫ, ЧОРТ ЦЯБЕ ДЗЯРЫ, КАЖАШ, ЁРЫК?
ШТО ТУТ АДБЫВАЕЦЦА?
ПРАБАЧ, ТЭС. Я... Я ЛІЧЫЛА, ШТО ЯМУ МОЖНА ДАВЯРАЦЬ.


СКАЖЫ ЁЙ.
Я НЕ РАЗУМЕЮ, ПРА ШТО...
СКАЖЫ ЁЙ, ШТО ТЫ ЗРАБІЛА. ІНАКШ СКАЖУ Я.


...
УЗБРОЕНЫ ГРАБЕЖ.






















Працяг будзе...





comicsby.by
vertigocomics.com

ten years on the edge
VERTIGO X

ISSUE 9
MAY 2003

BRIAN K. **VAUGHAN**
PIA **GUERRA**
JOSE **MARZAN** JR.
SUGGESTED FOR MATURE READERS

COMICS .BY
КОМІКСЫ ПА-БЕЛАРУСКУ

Y - АПОШНІ МУЖЧЫНА #09
ПЕРАКЛАД: АРТУР БАРАДАЧОЎ
АФАРМЛЕННЕ: СЯРГЕЙ КОЗЫРАЎ





















...ТО ЁН СТАНОВІЦЦА ЎСЁ ВЕСЯЛЕЙ.

UBV41

# CYCLES

## Кругаварот. Глава чацвёртая

BRIAN K. VAUGHAN PIA GUERRA
WRITER/CO-CREATORS/PENCILLER
JOSE MARZAN, JR., INKER
CLEM ROBINS, LETTERER PAMELA RAMBO, COLORIST
DIGITAL CHAMELEON, SEPARATOR
J.G. JONES, COVER ARTIST STEVE BUNCHE, EDITOR
Y: THE LAST MAN CREATED BY BRIAN K. VAUGHAN AND PIA GUERRA


Я СКАЗАЛА, САМЕЦ ПОЙДЗЕ СА МНОЙ, ЦІ МАЕ СЁСТРЫ СПАЛЯЦЬ ГЭТЫ ГОРАД У ПОПЕЛ.
«САМЕЦ»?
ШТО ЗА ЛУХТА З ТАБОЙ З ТАБОЙ ЗДАРЫЛАСЯ, ХІРОЎ?
Я МАГУ ЗАДАЦЬ ТАБЕ ТОЕ Ж ПЫТАННЕ. Я ДУМАЛА, ТЫ КАХАЕШ БЭТ.

ТАК І ЁСЦЬ! АЛЕ ЯКОЕ ГЭТА МАЕ ДАЧЫНЕННЕ ДА...
Я САЧЫЛА ЗА ТАБОЙ АПОШНЮЮ ГАДЗІНУ, ЁРЫК. НАЗІРАЛА, ЯК ТЫ КАЛОЎ ДРОВЫ З ГЭТАЙ... СОНЯЙ.
Я БАЧЫЛА, ШТО ВЫ РАБІЛІ.

УСЁ БЫЛО НЯ ТАК! МЫ ПРОСТА...
ЖЫХАРКІ МЭРЫСВІЛЯ, ХВІЛІНАЧКУ ВАШАЙ УВАГІ, КАЛІ ЛАСКА!

МЯНЕ ЗАВУЦЬ ВІКТОРЫЯ. УПЭЎНІВАЮ ВАС, ШТО ДАЧКІ АМАЗОНІІ І Я НЯ МАЕМ НАМЕР ПАШКОДЗІЦЬ ЖЫХАРКАМ ГЭТАГА ГОРАДА.
ПРАЎДУ КАЖУЧЫ, МЫ З СЁСТРАМІ НАВАТ ЗАХАПЛЯЕМСЯ ВАМІ!

КАЛІ НАШ ЦЯГНІК НАБЛІЖАЎСЯ ДА ГОРАДА, МЫ ПРАЯЗДЖАЛІ **ЖАНОЧУЮ ПАПРАЎЧУЮ КАЛОНІЮ.** БЕЗУМОЎНА, НЕКАЛІ ВЫ ЎСЕ ЗНАХОДЗІЛІСЯ Ў ЯЕ СЦЕНАХ.
ГЛЕДЗЯЧЫ НА ВАШУ СУПОЛКУ, МЫ ЗРАЗУМЕЛІ, ШТО ВЫ ЎЖО ДАЎНО ПАЗБАВІЛІСЯ АД ХАМУТА ПАТРЫЯРХАТУ. НІВОДНАЯ КЛАПАТЛІВАЯ ЖОНАЧКА ЦІ САРАМЛІВАЯ НЯВЕСТА НЕ ЗМАГЛА Б ПАБУДАВАЦЬ ТАКОЕ КАРАЛЕЎСТВА.
ПАВЕРЦЕ МНЕ, Я ВЕДАЮ, ЯК ВЫ ПАПАКУТАВАЛІ АД РУК МУЖЧЫН, ТАКСАМА ЯК І ВЕДАЮ, НАКОЛЬКІ ВЫ РАЗВІЛІСЯ З МОМАНТУ ЗДАБЫЦЦЯ СВАБОДЫ АД ІХ УЛАДЫ.
Я ВЕДАЮ, ШТО ВАША ЗНЯВОЛЕННЕ БЫЛО І ВАШЫМ ВЫЗВАЛЕННЕМ!
І Я ВЕДАЮ, ШТО АДЗІН З НАШЫХ ПРЫГНЯТАЛЬНІКАЎ ЗНАХОДЗІЦЦА СЯРОД ВАС.

ВАШЫ ЖЫВЁЛЬНЫЯ ІНСТЫНКТЫ КАЖУЦЬ ВАМ АБАРАНЯЦЬ ХЛОПЦА, АЛЕ СПЫТАЙЦЕ СЯБЕ... ВЫ – ЖЫВЁЛЫ ЦІ ВЫ – ЖАНЧЫНЫ?
ШТО, У РЭШЦЕ РЭШТ, МУЖЧЫНЫ ЎВОГУЛЕ ДЛЯ ВАС ЗРАБІЛІ?


**ФАКТ**: БОЛЬШАСЦЬ З ВАС, АСУДЖАНЫХ ЗА ЖОРСКІЯ ЗЛАЧЫНСТВЫ, ТОЛЬКІ АБАРАНЯЛІ СЯБЕ ЦІ СВАІХ ДЗЯЦЕЙ АД МУЖЧЫНСКАЙ АГРЭСІІ.


**ФАКТ**: ТЫЯ З ВАС, ХТО ЗАБІЎ СВАІХ МУЖЧЫН, АТРЫМАЛІ ТЭРМІНЫ ЎДВАЯ БОЛЬШ, ЧЫМ МУЖЧЫНЫ, ЗАБІЎШЫЯ СВАІХ ЖОНАК.


**ФАКТ**: МНОГІЯ З ВАС СЯДЗЕЛІ ЗА «ЭКАНАМІЧНЫЯ ЗЛАЧЫНСТВЫ», НА САМОЙ СПРАВЕ ТОЛЬКІ СПРАБУЮЧЫ ПРАКАРМІЦЬ СВАЕ СЕМ'І... АЛЕ ПАКУЛЬ ВЫ ГНІЛІ Ў ТУРМЕ, МЫЖЧЫНЫ, ЯКІЯ НАРАБАВАЛІ МІЛЬЯРДЫ, ГУЛЯЛІ НА ВОЛІ.


**ФАКТ**: ТОЛЬКІ Ў ГЭТАЙ КРАІНЕ, БОЛЕЙ СТА ТЫСЯЧ ЖАНЧЫН АДБЫВАЛІ ТЭРМІН, ПЕРШ ЧЫМ ЗЯМЛЯ-МАЦІ АЧЫСЦІЛАСЯ АД МУЖЧЫН-ВЫРАДКАЎ.


ЗА АПОШНІЯ НЕКАЛЬКІ МЕСЯЦАЎ, КОЛЬКІ ЖАНЧЫН, ПРЫМУША-НЫХ ДА НАРКОТЫКАЎ І ПРАСТЫТУЦЫІ, ЗГНІЛІ ЗА КРАТАМІ? І ДЗЕЛЯ ЧАГО... **МУЖЧЫНСКАЙ ІДЭІ** СПРАВЯДЛІВАСЦІ?


КАЛІ ВЫ, ЖАНЧЫНЫ, НА САМОЙ СПРАВЕ ЖА-ДАЕЦЕ АДПЛАЦІЦЬ СВАЮ «ПАШАНУ ГРАМАДСТВУ», ВЫ ПЕРАДАСЦЕ **МНЕ** АПОШНЯГА З МУЖЧЫН.


КАЛІ ВЫ ПАМЯТАЕЦЕ, АКРАМЯ ВАГАЎ І НАВОЧ-НАЙ ПАВЯЗКІ... ФЕМІДА – ГЭТА ЖАНЧЫНА З **МЯЧОМ**.


БОЖА ЛІТАСЦІВЫ.
МЫ Ў ПЕКЛЕДЖОНА ЭШКРОФТА.


ДЫК ШТО... ЗРОБІМ ПА-ДОБРАМУ ЦІ ПА-ДРЭННАМУ?


ПА-ДРЭННАМУ, КАВАЛАК ЛАЙНА!
СОНЯ...


ТЫ ХОЦЬ ЧУЛА ШТОСЬЦІ З ТАГО, ШТО ТОЛЬКІ ШТО СКАЗАЛА ВІКТОРЫЯ?


КОЖНАЕ СЛОВА.
АЛЕ ТОЛЬКІ ТОЕ, ШТО НЕЙКАЯ ЗАЦЫКЛЕНАЯ КУРВІСКА ПРАЧЫТАЛА НЕКАЛЬКІ СТАТЫСТЫЧ-НЫХ СПРАВАЗДАЧ, НЯ ЗНАЧЫЦЬ, ШТО ЯНА НАС ВЕДАЕ.


ТАКІМ ЧЫНАМ, КАЛІ Ў ЦЯБЕ НЯМА ДАСТАТ-КОВАЙ КОЛЬКАСЦІ СТРЭЛ ДЛЯ КОЖНАЙ У ГЭТЫМ ПАКОІ, МО-ЖАШ ПАЙСЦІ І СКА-ЗАЦЬ СЯБРОЎКАМ, ШТО МЫ НІКОЛІ НІКОГА НЕ АДДАДЗІМ БЯЗ БОЮ.


ГЭТА... ГЭТА ВАША АГУЛЬНАЕ РАШЭННЕ?




БЕЗ ВАРЫЯНТАЎ.


ТАДЫ Я... СКАЖУ ВІКТОРЫІ.


ДУМАЮ, ЯНА РАЗЛЮЕЦЦА.


ШТО ЗА ГАМОН АДБЫВАЕЦЦА?


МЫ МОЖАМ ВЫВЕСЦІ ЯГО ЦЕРАЗ СУТА-РЭННЫ ВЫ-ХАД?
АГА. ЁН ЗАЧЫНЕНЫ НА ЗАМОК ЗНАД-ВОРКУ.
СТОП. ПРА ШТО ВЫ РАЗМАЎЛЯЕЦЕ?


ПРА РАТАВАННЕ ТВАЁЙ ДУПЫ.
НАВОШТА?
ДЗВЕ ХВІЛІНЫ ТАМУ Я КАЗАЎ, ШТО ВЫ ЎСЕ ЗАСЛУГОЎВАЕЦЕ ЗНОЎ БЫЦЬ ЗАЧЫНЕНЫМІ Ў ТУРМЕ.


ТАК, МЫ ЗРАЗУМЕЛІ, ШТО ТЫ – ХАНЖАНСКІ ВЫБЛЯДАК.
І ШТО? ГЭТА НЯ ЗНАЧЫЦЬ, ШТО ЦЯБЕ ТРЭБА КАРАЦЬ СМЕРЦЮ.




ДЫК ШТО Ж НАМ РАБІЦЬ?
ЗБІРАЦЬ ВОЙСКІ.
ТАК. НАС ПА ЧАЦВЁРА НА КОЖНУЮ З ІХ.
АЛЕ Ў ЧОРТАВЫХ ФЕМІНІСТАК ЁСЦЬ ЗБРОЯ.
А... У ВАС?


НІЯКАЙ ЗБРОІ Ў МЭРЫСВІЛЕ.
ТАКІМ БЫЛО ПЕРШАЕ ПРАВІЛА Ў НАШЫМ СТАТУЦЕ.


ТАК, АЛЕ АГЕНТ 355...
...УСЁ ЯШЧЭ БЯЗ ПАМЯЦІ, ЁРЫК.
Я ВЕДАЮ, АЛЕ Ў ЯЕ ЁСЦЬ ДРАБАВІК І ЎСЁ ТАКОЕ Ў ЯЕ...
...ЗАПЛЕЧНІКУ, ЯКІ Я ПАКІНУЛА КАЛЯ ЧЫГУНКІ. Я НЕ ЖАДАЛА РАСХАДЖВАЦЬ ТУТ З... З ЗАРАДЖАНАЙ ПУШКАЙ.


Я БАЯЛАСЯ, ШТО МОГУЦЬ ПАПАКУТАВАЦЬ ЛЮДЗІ.


ТАК, ДОБРА.
Я ВЫХОДЖУ ДА ІХ.


ТЫ ЛЯСНУЎСЯ! ЯНЫ Ж ЗАБ'ЮЦЬ ЦЯБЕ!
НЕ АБАВЯЗКОВА. ХІРОЎ МАГЛА ЗАБІЦЬ МЯНЕ, АЛЕ НЕ ЗРАБІЛА ГЭТА.
МАБЫЦЬ... МАБЫЦЬ Я ЎСЁ ЯШЧЭ ЗМАГУ ПАГУТАРЫЦЬ З ЁЙ.


ЁРЫК, ТВАЯ СЯСТРА... УСЕ ГЭТЫЯ ДЗЯЎЧЫНКІ... ІХ РАЗДЗІРАЕ ГОЛАД, ІМ ПРАМЫЛІ МАЗГІ, ЯНЫ...


А ШТО Ж НАГАДАЕЦЕ МНЕ РАБІЦЬ, ДОК? КАЛІ МЫ БУДЗЕМ БІЦЦА, ЯНЫ ЗАБ'ЮЦЬ УСІХ НАС, УЛІЧВАЮЧЫ ВАС.
АЛЕ КАЛІ Я ЗДАМСЯ, ВЫ І 355 ЗМОЖАЦЕ ПРАЦЯГНУЦЬ ШЛЯХ У КАЛІФОРНІЮ. ПАПРАЦАВАЦЬ НАД ГЭТЫМ ПРАЕКТАМ З КЛАНАВАННЕМ БЕЗ МЯНЕ.


ШТО Б НІ ЗДАРЫЛАСЯ... НЕ ДАЗВАЛЯЙЦЕ ГЭТЫМ ІМБЕЦЫЛАМ ДАКРАНАЦЦА ДА МАЁЙ МАЛПАЧКІ.
NNN NNN


ГЭТА ТАБЕ НЯ «РОЎНА Ў ПОЎДЗЕНЬ», ЁРЫК! ТЫ РОБІШ ПАМЫЛКУ.
МАГЧЫМА, АЛЕ ГЭТЫ ГАРАДОК – АДЗІНАЕ ВАРТАЕ МЕСЦА, ДЗЕ Я БЫЎ З ТАГО МОМАНТУ, ЯК СВЕТ СКАЦІЎСЯ Ў ПРОРВУ. НЕ ЖАДАЮ БЫЦЬ ВІНАВАТЫМ У ЯГО ЗНІШЧЭННІ.


ЯК БЫ ТАМ НІ БЫЛО, Я ПРАШУ ПРАБАЧЭННЯ ЗА ТОЕ, ШТО КАЗАЎ РАНЕЙ.
ДЛЯ КУЧКІ ЧОРТАВЫХ ЗЛАЧЫНАК, ВЫ ВЕЛЬМІ НАВАТ НІЧОГА.


ЯШЧЭ Я ПРАШУ ПРАБАЧЭННЯ ЗА ТЫЯ ДВА РАЗЫ, КАЛІ ПАЦАЛАВАЎ ЦЯБЕ, СОНЯ.
ДВА РАЗЫ? АЛЕ ТЫ ПАЦАЛАВАЎ МЯНЕ ТОЛЬКІ...






ТЫ КАЗАЛА, НЯ БУДЗЕ НІЯКІХ ПРАБЛЕМ ВЫЦЯГНУЦЬ ТВАЙГО БРАТА, ХІРОЎ.
ВЕДАЮ, ВІКТОРЫЯ, АЛЕ ЁН


НЯВАЖНА, МЫ ПРОСТА СПАЛІМ ГЭТУ ПРАКЛЯТУЮ ХАТКУ І...
РАССЛАБСЯ, ПСІХАПАТКА.


ВОСЬ ЁН, ТВОЙ МУЖЧЫНА.


НЯ СМЕЙ РАЗЯЎЛЯЦЬ НА ЯЕ СВОЙ РОТ!


НА КАЛЕНІ!
Я ВЕДАЮ, ШТО ТЫ ТОЛЬКІ ПРЫКІДАЕШСЯ, ХІРОЎ. ЯКІ Ў ЦЯБЕ ПЛАН?


ЗАМОЎКНІ.
ТЫ ЎКАРАНІЛАСЯ ПАД ПРЫЧЫНЕН-НЕМ У РАДЫ АМА-ЗОНАК, ТАК? Я ЎСЁ ЗРАЗУМЕЎ, ГЭТА ПРАМА ЯК, КАЛІ МЫ ГУЛЯЛІ ТВАІМІ БАРБІ, І ТЫ ПРЫКІДАЛАСЯ...


ЗАБІ ЗЯПУ!
SWAK


...ЧОРТ ЦЯБЕ ДЗЯ-РЫ, ХІРОЎ.


«НЕБАРАКА ЁРЫК...»


БОЖА, НІКОЛІ НЯ ЧУЎ ГЭТАГА РАНЕЙ, МАРКІТАВАНАЯ ТЫ ПОХВА.
ДЫК ВОСЬ, БІТВА ПАЛОЎ ХУТКА СКОН-ЧЫЦЦА.
СКАЖЫ МНЕ, ЁРЫК, ТЫ КАЛІ-НЕБУДЗЬ ГУЛЯЎ У ШАХМАТЫ?


ТАК, СА СВАЁЙ СЯСТРОЙ, ПЕРШ ЧЫМ ТЫ ПЕРАТВАРЫЛА ЯЕ Ў МАРКІТАВАНАГА МОНСТРА, МАЛЕНЬКІ, ВАСТРАМОРДЫ КАВАЛАК ЛАЙНА!
ГЭТА ТЫ ЗРАБІЎ ЯЕ ТАКОЙ, ЯКАЯ ЯНА ЗАРАЗ, ГВАЛТАЎНІК. НЯ Я.
І ЦЯПЕР ТЫ ЗАПЛАЦІШ ЗА СВАЕ ГРАХІ, І ГРАХІ КОЖНАГА З МУЖЧЫН, ЯКІЯ ЭКСПЛУАТАВАЛІ І АПАГАНЬВАЛІ НАШЫ...


БОЖА МІЛАСТЦІВЫ!
ВЫ, АМАЗОНКІ, НЯ МОЖАЦЕ ЗАБІЦЬ САВЮ ЗЯПУ І ЗАБІЦЬ ХЛОПЦА, ТАК?


НАСУПРАЦЬ.
НАЗІРАЙЦЕ, СЁСТРЫ.


КРАХ МУЖЧЫН-СКАГА РОДУ.


KLICK


THUNK



ХТО...?


Я... ГЭТА Я ЗРАБІЛА.


СОНЯ.


УСЁ НАР-МАЛЬНА, СЫНОК?
ТАК, Я...


АААААААХХ!


ХІРОЎ, НЕ!




УХХ


НЕ!

ГЭЙ!
ХАЙ ХОЦЬ АДНА З ВАС ТОЛЬКІ РУШЫЦЬ СЮДЫ, І Я ПАЗАБІВАЮ ВАС ДА ЛІХАМАТАРЫ!
ТРЫМАЙСЯ, СОНЯ. ДОКТАР МАН ЦЯБЕ
УСЁ ДОБРА, ЁРЫК.
ГАТОВА ПАЙСЦІ Ў ЗАКЛАД... ТВАЯ ДЗЯЎЧЫНА – ПРЫГАЖУНЯ.
Я БАЧЫЛА АДНУ ПЕРАДАЧУ... ПА ТЭЛЕВІЗАРЫ...
ПРА ЛЬВОЎ. ТАМ... ТАМ ГУТАРЫЛІ ПРА ЛЬВОЎ...
















Працяг будзе...



ten years on the edge VERTIGO X

Y THE LAST MAN

ISSUE 10 JUNE 2003



BRIAN K. VAUGHAN
PIA GUERRA
JOSE MARZAN JR.
SUGGESTED FOR MATURE READERS







Y – АПОШНІ МУЖЧЫНА #10
ПЕРАКЛАД: АРТУР БАРАДАЧОЎ
АФАРМЛЕННЕ: СЯРГЕЙ КОЗЫРАЎ

comicsby.by

vertigocomics.com




Мэрысвіль. Агая.
Зараз.






















ЗАБІ ЗЯПУ, ХІРОЎ.
Я СУР'ЁЗНА. ШТО ГЭТА ЗНАЧЫЦЬ? «ПЕРАЙСЦІ РУБІКОН»?


ДЫ ПРОСТА ВЫКАЗВАННЕ, ШТО НЕ ЗРАЗУМЕЛА?
ЗНАЧЫЦЬ, ШТО ТЫ ПЕРАЙШЛА РЫСУ, АДКУЛЬ НЯМА ВЯРТАННЯ... ЗНАЧЫЦЬ, ШТО ТАБЕ ГАМОН.
АЛЕ ЧАМУ МЕНАВІТА ТАК? ШТО ТАКОЕ РУБІКОН?


НАПРАМІЛЫ БОГ! ТЫ ТОЛЬКІ ШТО КАТАВАЛА ЧАРГОВАГА ЧАЛАВЕКА, І ЎСЁ ШТО ТАБЕ...


ТЫ НЯ ВЕДАЕШ... ТАК ЖА?




ТАТА ЗАЎСЁДЫ КАХАЎ ЦЯБЕ БОЛЕЙ, ТЫ Ж БЫЎ «РАЗУМНІКАМ»... АЛЕ НЕ ТАКІ ТЫ І РАЗУМНІК.
ТАБЕ ПАДАБАЕЦЦА ДЭМАНСТРАВАЦЬ УСЁ ТОЕ ЛАЙНО, ШТО ТЫ ПРАЧЫТАЎ У КНІГАХ, АЛЕ ТЫ НЕ РАЗУМЕЕШ СВЕТ ПА-САПРАЎДНАМУ, ЯК Я.


Я І ІНШЫЯ ДОЧКІ АМАЗОНІІ, ЦЯПЕР МЫ ВЕДАЕМ УСЁ... ДЗЯКУЮЧЫ ЖАНЧЫНЕ, ЯКУЮ ЗАБІЛА ТВАЯ МАЛЕНЬКАЯ СЭКС-ПАРТНЁРКА.


І Я ВЕДАЮ РЭЧЫ, ЯКІЯ НАВАТ ВІКТОРЫЯ НЯ ВЕДАЛА. ВЕДАЮ ПРА «СВЯТУЮ ПЯЧОРУ» І ПРА «ЛІГУ КАЗЯЛЬЦОЎ» І... І ПРА «ЗАКУЛІСНУЮ ВАСЬМЁРКУ».
Я ВЕДАЮ, ЧАМУ ЗЯМЛЯ-МАЦІ ЗНІШЧЫЛА ВАШ РОД, І ВЕДАЮ, ЧАМУ **МЫ** ЎСЁ ЯШЧЭ ТУТ.


ТАМУ НАЦІСНІ НА КУРОК, ЁРЫК. ІНШЫЯ ЗАЙМУЦЬ МАЁ МЕСЦА, КАЛІ ТЫ ЗАБ'ЕШ МЯНЕ, І АДНА З ІХ СКОНЧЫЦЬ ТОЕ, ШТО Я ПАЧАЛА З ТАБОЙ.
МУЖЧЫНЫ ХУТКА САМРУЦЬ, АЛЕ Я НІКОЛІ НЕ ПАМРУ ПА-САПРАЎДНАМУ.


ПАМЫЛЯЕШСЯ, ХІРОЎ.
KLICK




# CYCLES

**Кругаварот. Заключэнне**

BRIAN K. VAUGHAN PIA GUERRA
WRITER/CO-CREATORS/PENCILLER
JOSE MARZAN, JR., INKER
CLEM ROBINS, LETTERER PAMELA RAMBO, COLORIST
ZYLONOL, SEPARATOR
J.G. JONES, COVER ARTIST STEVE BUNCHE, EDITOR

Y: THE LAST MAN CREATED BY BRIAN K. VAUGHAN AND PIA GUERRA
ПЕРАКЛАД – АРТУР БАРАДАЧОЎ , АФАРМЛЕННЕ – СЯРГЕЙ КОЗЫРАЎ













ШТО?
ТЫ МЯНЕ ЧУЎ. КАЛІ МЫ ВЫЗВАЛІЛІСЯ ПАСЛЯ ЭПІДЭМІІ, ГЭТЫ ГОРАД ПАКЛЯЎСЯ НІКОЛІ НЕ РАБІЦЬ ТОЕ, ШТО ЗРАБІЛІ З НАМІ.
НІКОЛІ.


АЛЕ ЯНЫ Ж **ЗАБІЛІ** СОНЮ!
ЁН МАЕ РАЦЫЮ. ГЭТА... ГЭТА ІНШАЕ. ЯНЫ **ЗАБОЙЦЫ**.


ЯК І Я! І ЖАДАЮ ЗАБІЦЬ ЗНОЎ ЗА ТОЕ, ШТО ЯНЫ ЗРАБІЛІ!
АЛЕ ПАГЛЯДЗІЦЕ НА ГЭТЫХ ДЗЯЎЧЫН. БЯЗ ТОЙ КУРВІСКІ, ЯКАЯ ІМІ КІРАВАЛА, ЯНЫ НАПАЛОХАНЫЯ. ІМ ПАТРЭБНА ДАПАМОГА, А НЕ ЛАЙНОВАЯ КАМЕРА.


МЫ БУДЗЕМ КРЫВАДУШНІЦАМІ, КАЛІ ПАСАДЗІМ ІХ ЗА КРАТЫ... І СОНЯ СКАЗАЛА Б ТОЕ Ж САМАЕ.
ГЭТА ВАР'ЯЦТВА! ВЫ НЯ МОЖА-ЦЕ ПРОСТА...


А, КАРАЦЕЙ:
НЕ АБВІНАВАЧВАЙЦЕ МЯНЕ, КАЛІ ЯНЫ СПАЛЯЦЬ ГЭТА МЕСЦА ДАТЛА.


ЁРЫК, ПАЧАКАЙ!


ВЫ ПАВІННЫ ПАСЛУХАЦЬ ЯГО, ЛІДЗІЯ.
ГЭТЫЯ ЖАНЧЫНЫ – ЗВЕРЫ. НЯДАЎНА, У БОСТАНЕ, ЯНЫ ЦАЛ-КАМ СПАЛІЛІ МАЮ ЛАБАРАТОРЫЮ.


ГЭТА ХЛУСНЯ!
ТОЛЬКІ ПАСПРАБУЙ, КАВАЛАК ЛАЙНА.


ПАЧАКАЙ, ТЭС.
ХАЙ СКАЖА.


Я БЫЛА З АМАЗОНКАМІ Ў БОСТАНЕ. МЫ ШМАТ ЧАГО ЗРАБІЛІ... АЛЕ МЫ НЯ СПАЛЬВАЛІ НІЯКУЮ ЛАБАРАТОРЫЮ.
ЛУХТА САБАЧАЯ!
ТЫ БАЧЫЛА, ЯК Я ЗАБІЛА ДЗЯЎЧЫНУ. НАВОШТА МНЕ ХЛУСІЦЬ ПРА НЕЙКІ ПАЖАР?


НУ, КАЛІ НЯ ВЫ... ТО ХТО, ТРАСЦА ТАБЕ Ў БОК, МОГ ЗРАБІЦЬ ГЭТА?




**Масачусецкая Нацыянальная Ахоўная Авіябаза. Зараз.**















<ГЛЯДЗІ, САДЗІ.>
<ІХ ЖАНЧЫНЫ ВЫДАТНА СТРАЛЯЮЦЬ, ЗВЯРНІ ЎВАГУ, ЯК ЯНЫ КІДАЮЦЦА БЕЗ КАМАНДАВАННЯ... БЫЦЦАМ ПЧОЛЫ БЕЗ КАРАЛЕВЫ.>
<ГЕНЕРАЛ-ЛЕЙТЭНАНТ ТСЭЛАН! >


<ВАС ВЫКЛІКАЮЦЬ.>
<ГЭТА ТАЯ АМЕРЫКАНКА.>


БОЖА, Я ШТО, ЧУЮ СТРЭЛЬБУ? ШТО, ЧОРТ ДЗЯРЫ, ВЫ РОБІЦЕ, АЛТЭР? Я Ж СКАЗАЛА ВАМ...
СУПАКОЙЦЕСЯ, НЕЗНАЁМКА. МЫ НІКОГА НЕ ЗАБІВАЕМ, ТОЛЬКІ АДСТРЭЛЬВАЕМСЯ, КАБ УЦЯЧЫ.


УЦЯЧЫ? АДКУЛЬ?
ВЫ НАВАТ НЕ НАЗВАЛІ СВАЁ ІМЯ. НАВОШТА МНЕ РАСКАЗВАЦЬ ВАМ ШТО-НЕБУДЗЬ?


ТАМУ ШТО, КАЛІ НЯ СТАНЕЦЕ, Я НЕ СКАЖУ ВАМ МЕСЦАЗНАХОДЖАННЕ ЁРЫКА БРАЎНА.


АПАРАТ, НА ЯКІМ МАЕ ВОЙСКІ ПРЫЛЯЦЕЛІ Ў ШТАТЫ ПАЦЯРПЕЎ КРУШЭННЕ, ТАМУ... МЫ БЫЛІ ВЫМУШАНЫ ЗАХАПІЦЬ АЛЬТЭРНАТЫЎНЫ ТРАНСПАРТ.
А ЦЯПЕР, ДЗЕ ГЭТЫ МІФІЧНЫ АПОШНІ МУЖЧЫНА, ЯК ВЫ І АБЯЦАЛІ?


ВЫ ВЕДАЕЦЕ, ШТО ЁН – НЯ МІФ, АЛТЭР... ІНАКШ ВЫ Б НЕ ЎКРАЛІ ЯГО ДА ГЭТАГА ЧАСУ.
НЕ, Я Б ПАЧАЛА ШУКАЦЬ ВАС, І, УПЭЎНІВАЮ, ВЫ Б НЯ БЫЛІ РАДЫ МЯНЕ БАЧЫЦЬ.
СПАКОЙНА, САЛДАТ. МЫ З ВАМІ НА АДНЫМ БОКУ.


ХЛОПЕЦ Ў МЯСТЭЧКУ НА ПОЎНАЧЫ АГАЯ, У МЭРЫСВІЛЕ.
ВЫ ЎПЭЎНЕНЫ? АДКУЛЬ ВЫ ЎВОГУЛЕ АТРЫМЛІВАЕЦЕ ДАНЫЯ?
Я НЕ МАГУ ВАМ ГЭТА СКАЗАЦЬ, АЛЕ МАГУ СКАЗАЦЬ, ШТО ВАМ ТРЭБА СПЯШАЦЦА.


НЯ ДУМАЮ, ШТО ЁН ПРАБУДЗЕ ТАМ ДОЎГА...


























*АРЫГІНАЛЬНАЯ ФРАЗА ГУЧЫЦЬ ТАК: «ЗАБУДЗЬ ПРА ГЭТА, ДЖЭЙК. ГЭТА ЧАЙНАТАЎН.» ФРАЗА ЎЗЯТА З ФІЛЬМУ «ЧАЙНАТАЎН».


«ДЖЭЙК»?
МНЕ ШТО, АДНАМУ ПРЫХОДЗІЦЬ У ГАЛАВУ «ЧАЙНАТАЎН», КАЛІ Я ЧУЮ «РУБІКОН»?


А НАВОШТА НАЖНІЦЫ?
Э? А, Я ЗНАЙШОЎ ІХ У ПАКОІ СОНІ І ВЫРАШЫЎ... КАРАЦЕЙ, ГЭТА ГЛУПА, АЛЕ...
Я НЯ СТРЫГСЯ З ТАГО ЧАСУ, ЯК УСЕ ПАРЫКМАХЕРЫ ВЕЧКАМ НАКРЫЛІСЯ, І ПА НЕЗРАЗУМЕЛАЙ ПРЫЧЫНЕ, Я ЗНЯНАЦКУ АДЧУЎ...


ДАЗВОЛЬ МНЕ.
У ЦЯБЕ ЁСЦЬ ЧАС ГУЛЯЦЬ У СТЫЛІСТА? ХІБА ТЫ НЕ ПАВІННА БЫЦЬ У ГОРАДЗЕ, ПРАВЯРАЦЬ, ЦІ НЕ ПАЧАЛІ ДАРОЖНЫЯ ВОІНЫ ЗНОЎ РАБАВАЦЬ І ГВАЛЦІЦЬ?
МЯСЦОВЫЯ ЎЖО ЎЗЯЛІ ІХ ПАД ВАРТУ, ЁРЫК.


СУР'ЁЗНА?
ЯК ВІДАЦЬ, ЯНЫ ЗНАЙШЛІ КАМПРАМІС. ЖЫХАРЫ БУДУЦЬ ТРЫМАЦЬ АМАЗОНАК У ЧАСОВЫМ ЗНЯВОЛЕННІ, І АДПУСКАЦЬ ІХ ПА МЕРЫ ТАГО, ЯК КОЖНАЯ З ІХ ЗНОЎ БУДЗЕ ГАТОВА СТАЦЬ ЧЛЕНАМ СУПОЛЦЫ.


І ЦЯБЕ ГЭТА ЗАДАВАЛЬНЯЕ? Я ЛІЧЫЎ, ТЫ Ў НАС МІС «ЗАКОН І ПАРАДАК»!
ЁРЫК, ТУРЭМНАЯ СІСТЭМА ГЭТАЙ КРАІНЫ СТАЛА ГАНЬБАЙ. Я ГАТОВА РАЗГЛЯДАЦЬ КОЖНУЮ РАЗУМНУЮ АЛЬТЕРНАТЫВУ.
ЯК ТЫ МОЖАШ ТАК КАЗАЦЬ? ПАРУ ГАДЗІН ТАМУ Я СТАЯЎ ТУТ І РАЗМАЎЛЯЎ З ДЗЯЎЧЫНАЙ, А ЦЯПЕР ЯЕ, БЛЯ, ПРОСТА НЯМА! ЎСЁ З-ЗА АДНОЙ З ГЭТЫХ ДЗІКУНАК...


УСЁ З-ЗА МАЁЙ СЯСТРЫ.


ВЕДАЕШ, Я ПАСПЕЛА ЗЛАВІЦЬ ПОЗІРК ХІРОЎ, КАЛІ ЯЕ АДВОДЗІЛІ.
У ЯЕ ВАЧАХ БЫЛО... ГЭТЫ ЯЕ ВЫРАЗ НАГАДАЎ МНЕ НЕШТА, ШТО Я БАЧЫЛА АДНОЙЧЫ ПАДЧАС МАЙГО ПЕРШАГА ЗАДАННЯ ДЛЯ ГРУПЫ КАЛПЕР. Я ТАДЫ БЫЛА ЯШЧЭ ЗУСІМ МАЛАДОЙ.


ГЭТА БЫЛО Ў УЭКА, У 93-М, ЯКРАЗ ПЕРАД ТЫМ, ЯК ФБР АБЛАЖАЛАСЯ. МНЕ ТРЭБА БЫЛО ЎВАЙСЦІ Ў БУДЫНАК І ВЫВЕСЦІ ПЛЯМЕННІЦУ СЕНАТАРА, ЯКАЯ ТРАПІЛА ПАД УПЛЫЎ СЕКТЫ ДАВІДА КОРЭША.
МНЕ ДАЛІ ЦЭЛЫ СТОС ФОТАЗДЫМКАЎ ДЗЯЎЧЫНКІ... АЛЕ КАЛІ Я НАРЭШЦЕ ЗНАЙШЛА ЯЕ, ЯНА ЗУСІМ НЕ БЫЛА ПАДОБНА НА СЯБЕ НА ЗДЫМКУ.


ЯЕ ВОЧЫ БЫЛІ МЁРТВЫЯ, ЁРЫК. ВІДАВОЧНА, ЯНА ЎЖО НЕ БЫЛА ТОЙ АСОБАЙ, ЯКОЙ БЫЛА РАНЕЙ. АЛЕ ПАСЛЯ НЕКАЛЬКІХ МЕСЯЦАЎ ПСІХАТЭРАПІІ...
ДЗЯКУЙ ТАБЕ ЗА ТОЕ, ШТО ТЫ СПРАБУЕШ ЗРАБІЦЬ, 355, АЛЕ Я НЕ ЗМЯНЮ СВАЙГО ПОГЛЯДУ.
ЧОРТ, Я ЛІБЕРАЛЬНЫ ЯК ДРУГІ РАЛЬФ НЭЙДЭР... ДА ЛІХАМАТАРЫ ГЭТУ ПЭЦІ ХЁРСТ. МАЯ СЯСТРА АДКАЗНА ЗА ТОЕ, ШТО ЯНА ЗРАБІЛА. ЯНА ЗАСЛУГОЎВАЕ ПАКАРАННЯ.


ТАДЫ ЧАМУ ТЫ НЕ ЗАСТРЭЛІЎ ЯЕ?
ТАМУ ШТО МАЯ МАЦІ... НАША МАЦІ... ВУЧЫЛА НАС, ШТО НІХТО НЕ ЗАСЛУГОЎВАЕ СМЕРЦІ ЗА СВАЕ ЗЛАЧЫНСТВЫ.


ЛЕПЕЙ КІНУЦЬ ІХ ГНІСЦІ ЗА КРАТАМІ РЭШТУ ІХ МІЗЭРНЫХ ДЗЁН.




ННН...
ХЭЭ...


ХУЭЭЭЭЭ
ХІРОЎ, ТАБЕ ДРЭННА?


МОЙ... МОЙ БРАТ...
ВЕДАЮ, МЫ ЗНОЙДЗЕМ, ЯК ДАСТАЦЬ ЯГО, ХІРОЎ. ЯК ТОЛЬКІ НАС ВЫПУСЦЯЦЬ АДСЮЛЬ, МЫ...
ТЫ НЕ ЗРАЗУМЕЛА. МОЙ БРАТ.... МАЙСТАР ЗНІКНЕННЯЎ.


ЁН НАВУЧЫЎ МЯНЕ НЕКАЛЬКІМ СВАІМ ТРУКАМ.




НЯЎЖО НАМ САПРАЎДЫ ТРЭБА СЁННЯ ЕХАЦЬ? ТЫ ЯШЧЭ НЕ АЧУНЯЛА І...
ГАРАДЖАНЕ АДДАЛІ ШМАТ ТАВАРАЎ, КАБ АПЛАЦІЦЬ НАМ ПРАЕЗД НА НАСТУПНЫ ЦЯГНІК У КАЛІФОРНІЮ. МЫ НЯ МОЖАМ ІХ ТАК ПАДВЕСЦІ.


ВЕДАЮ, ПРОСТА Я НАКШТАЛТ СПАДЗЯВАЎСЯ, ШТО МЫ ЗМОЖАМ ЗАСТАЦЦА НА ПАХАВАННЕ СОНІ.
МНЕ ШКАДА, ЁРЫК, АЛЕ АДЗІНАЕ, ШТО РАСПАЎСЮДЖВАЕЦЦА ХУТЧЭЙ, ЧЫМ ЧУМА, ГЭТА ЧУТКІ ПРА ЖЫВОГА МУЖЧЫНУ.
НАМ ТРЭБА ЕХАЦЬ, ПЕРШ ЧЫМ ЦІКАЎНЫЯ НАТОЎПЫ ПРЫЕДУЦЬ ЦЯБЕ ШУКАЦЬ.


ДОБРЫ ВЕЧАР. БАЮСЯ, ШТО АСТАТНІЯ ЎСЁ ЯШЧЭ Ў ТУРМЕ, АЛЕ У МЯНЕ АТРЫМАЛАСЯ ЗАБЯСПЕЧЫЦЬ ВАМ ЦЭЛЫ ТАРМАЗНЫ ВАГОН.
ДОКТАР МАН З ВАШАЙ МАЛПАЙ УЖО УНУТРЫ.
ДЗЯКУЙ, МЭМ. ЯК ТОЛЬКІ ЎРАД ЗНОЎ ПАДНІМЕЦЦА НА НОГІ, Я ПРАСАЧУ, КАБ ВАШ ГОРАД АДДЗЯКАВАЛІ ЗА ЯГО ДАБРЫНЮ.


ВЫ МЯНЕ ПРАБАЧЦЕ, КАЛІ Я НЕ ЗАМІРАЮ Ў ТРАПЯТАННІ.
YEB VAS! ПРЫМІЦЕ ПРЭЧ СВАЕ РУКІ!


ШТО ЗДАРЫЛАСЯ?
А, ГЭТА КАНТРАЛЁРЫ ПАЧАЛІ ПРАВЯРАЦЬ ВАГОНЫ НА НАЯЎНАСЦЬ БЕЗБІЛЕТНІКАЎ ПЕРАД АДПРАЎКАЙ. УСЁ НАРМАЛЬНА.


НЕ! МАЛЮ!
Я ПРЫЕХАЛА З САМАЙ МАСКВЫ! Я ПАВІННА ТРАПІЦЬ У КАНЗАС! «САЮЗ» ПРЫЗЯМЛЯЕЦЦА Ў...
ПРОСТА ВЫДЗІЦЕ З ЦЯГНІКА, ДАМАЧКА!


У ЛЮБЫМ ВЫПАДКУ ВАМ ЛЕПЕЙ СЯДАЦЬ, ПЕРШ ЧЫМ ЦЯГНІК АДПРАВІЦЦА, ЁРЫК.
Я ТОЛЬКІ ХАЦЕЎ СКАЗАЦЬ, НІНА, ШТО, КАЛІ ВЫ ПАЖАДАЕЦЕ ШТО-НЕБУДЗЬ ПАСТАВІЦЬ У ГОНАР СОНІ, ПАСТАЎЦЕ БОЎІ.
ЁЙ... ЁЙ ПАДАБАЎСЯ ДЭВІД БОЎІ.


І, КАЛІ ЛАСКА, СКАЖЫ ЎСІМ, ШТО МНЕ ВЕЛЬМІ ШКАДА ЗА... ЗА ТЫЯ ПАКУТЫ, ЯКІЯ Я ПРЫНЁС.
УСЁ НАРМАЛЬНА, ЁРЫК.


ПРОСТА ПАСПРАБУЙ НЯ БРАЦЬ БЛІЗКА ДА ГАЛАВЫ.




ХРАП 355 ТАКСАМА НЕ ДАЕ ЗАСНУЦЬ?
ДЫ НЕ, Я ПРОСТА ДУМАЮ ПРА СВАЮ ДЗЯЎЧЫНУ.


ПРА ТУЮ, ШТО Ў АЎСТРАЛІІ?
УГУ, ТЫ, НАПЭЎНА, ЛІЧЫШ, ШТО Я ДРЭННАЯ ПАРТЫЯ, ПАСЛЯ ТАГО, ШТО АДБЫЛОСЯ... АЛЕ БЭТ САПРАЎДЫ АДЗІНАЯ ДЛЯ МЯНЕ.
ЦЯПЕР Я Ў ГЭТЫМ УПЭЎНЕНЫ. КАЛІ Я ГЛЯДЖУ НА ЗОРКІ, Я ДУМАЮ, ЦІ ГЛЯДЗІЦЬ ЯНА НА ТЫЯ Ж.


НУ, УЛІЧВАЮЧЫ, ШТО ЗАРАЗ У АЎСТРАЛІІ ПРЫКЛАДНА ПОЎДЗЕНЬ, Я Б СКАЗАЛА, ШТО ГЭТА МАЛАІМАВЕРНА, ДОН ЖУАН.


ВЕДАЕШ, У НЕЙКІ МОМАНТ Я БЫЎ ДАСТАТКОВА ДУРНЫ, КАБ ПАДУМАЦЬ, ШТО ВЫКОНВАЦЬ РОЛЮ АПОШНЯГА ХЛОПЦА НА ЗЯМЛІ МОЖА БЫЦЬ ВЕСЕЛА...

220 міль над Зямлёй.
Зараз.






...МЫ ВЯРТАЕМСЯ НА ЗЯМЛЮ.

Працяг будзе...